

БЕЛАРУСКАЯ МАЛАДЗЁЖНАЯ ГАЗЕТА

# ЧЫРВОНАЯ Змена

ВЫДАЕЦЦА З 1921 ГОДА

ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ

№ 39 (13571)

21— 27 верасня 1992 года

Кошт 3 рублі.

## *Стоп-факт*

### ЕЎРОПА І СВЕТ НА ПЕРАЛОМЕ. НЯМА ПРАРОКАЎ У СВАЁЙ АЙЧЫНЕ І ГАРБАЧОЎ — НЕ ПРАРОК

Пасля візіту парламенцкай дэлегацыі Беларусі ў такую звышдзяржаву як ФРГ, адна рэспубліканская газета ўпікнула журналістаў: ім, маўляў, "падавай" толькі "эканамічны эфект". Але, відаць, ад парламенцкай дэлегацыі нявaрта чакаць эканамічнай аддачы, бо яе перш-наперш павінны прыносіць урадавыя візіты. Таму мэтазгодна гаварыць пра палітычны эфект. Германію існаваннем на карце такой дзяржавы як Беларусь не здзівіш (напрыклад, як гэта было ў Рыо-дэ-Жанейра). Беларусь і ФРГ — суседзі. А нас, беларусаў, як вядома, хлебам не кармі — толькі дай з кім-небудзь парадніцца. Больш таго, інфармацыйна-ідэалагічныя тэрміналы Германіі, згодна выслоўя дэпутата Садоўскага, скіраваны сярод усіх дзяржаў СНД менавіта на Беларусь. Так што рэспубліка павінна забяспечыць адпаведны ўзровень супрацоўніцтва заключэннем двухбаковых пагадненняў. Без гарантый страхавых, банкаўскіх і г.д. дамовы (асабліва ў галіне эканомікі) немагчымыя.

Усё гэта давялося пачуць на прэс-канферэнцыі, арганізаванай для журналістаў удзельнікамі беларускай дэлегацыі на чале са Станіславам Шушкевічам, пасля іхняга вяртання з міжнароднага форуму ў Германіі "Еўропа і свет на пераломе". Дарэчы, заключнае слова на імпрэзе меў Міхаіл Гарбачоў, які пацвердзіў сваю вернасць сацыялістычнаму выбару і дадаў: каб мы яго слухалі раней, то ўсё было б у парадку. Заяўляць гэта перад замежнай аўдыторыяй — многа смеласці не трэба. Сапраўды, няма прарокаў у сваёй Айчыне, затое за межамі — іх процьма...

**А. АГІБАЛАВА.**

### ФРУНЗЕ ЗДАЕ ПАЗІЦЫІ

17 верасня ў Полацку завяршыла работу чарговая сесія Савета народных дэпутатаў. Сярод іншых рашэнняў сесіі было адно, якое, напэўна, прыцягнула ўвагу не толькі вернікаў, але і людзей, якім неабыякава духоўнае адраджэнне беларускага народа: вызваліць да канца 1992 года ад выплаты падатку на зямлю і нерухомасць Спаса-Ефрасіньеўскі жаночы манастыр.

Як паведаміў Аляксандр Уладзіміравіч Камароў, першы намеснік старшыні Полацкага гарвыканкама, вызваленне манастыра да канца года ад выплаты падатку — гэта не шырокі жэст з боку ўлад. Проста ў сувязі з надыходам свята 1000-годдзя ўвядзення хрысціянства на Беларусі выраслі выдаткі манастыра, і апошні звярнуўся ў гарвыканкам з просьбай аб адмене падаткаў. Жаданне вернікаў было, як бачым, задаволена.

Манастыр унёс на разгляд сесіі і пытанне аб перайменаванні часткі вуліцы Фрунзе ў вуліцу Ефрасінні Полацкай. Чаму толькі частку? Як растлумачыў А.У.Камароў, гэта выклікана тым, што вуліца Фрунзе размешчана на тэрыторыі двух гарадскіх раёнаў, мяжа якіх праходзіць па чугуначным палатне. Цяпер жа з аднаго боку чыгункі будзе вуліца Фрунзе, а з другога — Ефрасінні Полацкай...

**Франц ЛЯВІЦКІ.**

### "БУДАЎНІЧАЯ МІЛІЦЫЯ ЦІ БЕЗГАСПАДАРЧАСЦЬ. ШТО ВЫБРАЦЬ?"

У наш час пабудаваць свой дом, дачу ці якую-небудзь іншую будыніну вельмі і вельмі нялёгка. Прычына простая: будаўнічыя матэрыялы далёка не танныя. Але гэта мала каго спыняе, а таму нікога ўжо не здзівіш двух- і трохпавярховымі дачамі-палацамі. Здзіўляе другое: адкуль жа бяруцца грошы на будаўніцтва гэтых цудаў-дамоў?

Адказ самы элементарны. Хтосьці па цаглінцы ды па дошчачцы купляе, а хтосьці гэтыя самыя цаглінкі-дошчачкі падбірае на дзяржаўных будоўлях (адным словам, крадзе). Змагацца з такімі "несунамі і везунамі" цяжка: розных аб'ектаў будуецца шмат, а аховы на іх нярэдка — ніякай.

У Маскве выхад з гэтай сітуацыі знайшлі. Там зусім нядаўна створана будаўнічая міліцыя, якая заклікана змагацца з крадзяжамі будматэрыялаў. Справа добрая. Не шкодзіла б і нам па прыкладу масквічоў стварыць такі ж орган у Беларусі.

Але, як сказалі ў Міністэрстве унутраных спраў Рэспублікі Беларусь, пытанне аб стварэнні будаўнічай міліцыі ў нашай рэспубліцы пакуль што не ўзнімалася. А пара б ужо.

## *Правінцыяльная хроніка*

### ХРЫСТОС ПРЫЗЯМЛІЎСЯ Ў БАРАНІ...

Ці прадчуваў Караткевіч, што й на яго роднай Віцебшчыне, якая шчэ нядаўна ўпэўнена крочыла ў першых шэрагах ваяўнічых атэістаў, неўзабаве зробіць мяккую пасадку... Хрыстос, і доўга бамжаваць яму не давядзецца, бо паселіцца ён адразу ў Храме Божым ды з усімі выгодамі?

У горадзе Барані адкрылася царква. Нарэшце. Але гэта не ўсё, бо бараньчане ўвайшлі ў смак і неўзабаве пачнуць будаваць яшчэ адну – праваслаўную спаса-прэабражэнскую царкву. Ужо і праект маецца.

### ...У МІЁРАХ

І тут вернікі не спяць у шапку. Напярэдадні новага навучальнага ў праваслаўным храме адбылося своеасаблівае набажэнства. Свяшчэнны протаіерэй Мікалай Рунда павіншаваў ва ўступным слове дзетак і іх бацькоў з Днём ведаў. Дарэчы, да ведама грэшнікаў: жадаючыя тут маглі паспавядацца, прычасціцца, надыбаць крыжык.

### .. І Ў ДЗІСНЕ

рэстаўрыруецца мясцовы касцёл. Не вельмі спадзеючыся на Бога ды на тамтэйшае начальства, католікі заручыліся дапамогаю кааператываў з Літвы, якія і аднаўляюць храм. На жаль, і грошы, і матэрыялы таксама з неба не падаюць, аказваецца. Але вернікі не апускаюць рукі. Дзіва што, у адрозненне ад звычайных нашых будаўнікоў светлай будучыні, перакуры ім не патрэбны.

**Падрыхтаваў Уладзімір МІХНО.**

### ПРАВЕРЦЕ ПРАВІЛЬНАСЦЬ АФАРМЛЕННЯ АБАНЕМЕНТА

На абанеменце павінен быць праставлены адбітак касавай машыны.

Пры афармленні падпіскі (пераадрасоўкі) без касавай машыны на абанеменце праставляецца адбітак календарнага штэмпеля аддзялення сувязі. У гэтым выпадку абанемент выдаецца падпісчыку з квітанцыяй аб аплаце кошту падпіскі (пераадрасоўкі).

---

Для афармлення падпіскі на газету або часопіс, а таксама для пераадрасавання выдання бланк абанемента з даставачнай карткай запаўняецца падпісчыкам чарнілам, разборліва, без скарачэнняў, адпаведна ўмовам, выкладзеным у каталогах.

Запаўненне месячных клетак пры пераадрасаванні выдання, а таксама клеткі "ПВ-МЕСЦА" робіцца работнікамі прадпрыемстваў сувязі.

## *Увага! Увага! Увага!*




З 1 па 4 кастрычніка 1992 г. у Полацку адбудзецца фестываль дзіцячай творчасці "Восьмы колер вясёлкі", заснавальнікамі і арганізатарамі якога выступілі Полацкі гарадскі Савет народных дэпутатаў, нацыянальная дзяржаўная тэлерадыёкампанія Беларусі, газета "Знамя юности", штотыднёвік "Чырвоная змена", культурна-спартыўны комплекс В/А "Шкловалакно".

Фестываль праводзіцца ў чатыры этапы.

Для ўдзелу ў фестывальных канцэртах запрошаны вядомыя калектывы і выканаўцы: Ліка Ялінская, група "Верасы", ансамбль народнай музыкі "Галубіца", Міхаіл Баярскі, арганістка Ксенія Пагарэлая, шоу Бары Алібасава група "На-На", былы дыктар ЦТ Валянціна Лявонцьева і іншыя вядомыя эстрадныя выканаўцы.

Мерапрыемствы ўсіх чатырох дзён будуць трансліравацца па праграмах Беларускага радыё і тэлебачання, асвятляцца ў рэспубліканскай прэсе.

Ад імя аргкамітэта і заснавальнікаў фестываль звяртаецца да ўсіх жадаючых з прапановай выступіць спонсарамі, мецэнатамі, фінансавымі арганізатарамі гэтага свята для дзяцей.

Усе, хто жадае прыняць удзел у фестывалі, аказаць дапамогу, выказаць прапановы і пажаданні, могуць звяртацца ў аргкамітэт фестывалю да выканаўчага дырэктара Аляксандра Рагачова па тэлефонах у Полацку: 4-20-24, 4-94-57, 4-41-66.

**ФЕСТЫВАЛЬ ШУКАЕ СПОНСАРАЎ!**

## *Сувязі*

### БАЛГАРЫЯ Ў ГАСЦЯХ У БЕЛАРУСІ

Учора, 24 верасня, у нацыянальным тэатры імя Янкі Купалы адбылося адкрыццё дзён Балгарыі ў Рэспубліцы Беларусь, якія будуць праходзіць па 30 верасня.

Для прадстаўлення нацыянальнай балгарскай культуры прыехаў хор "Гармонія", маладзёжны танцавальны калектыў народных танцаў імя Яне Сандански.

Мерапрыемствы, звязаныя з днямі Балгарыі, пройдуць у Мінску, Полацку, Магілёве.

У складзе балгарскай дэлегацыі — бізнесмены, зацікаўленыя ў заключэнні пагадненняў аб супрацоўніцтве, прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі.

Дэлегацыю Балгарыі ўзначальвае прафесар Захарый Захарыеў — старшыня Федэрацыі дружбы і фонда "Славяне", член парламента рэспублікі.

Дні Балгарыі ў Беларусі абяцаюць быць цікавымі, насычанымі рознымі мерапрыемствамі. Пасля іх, будзем спадзявацца, гэта славянская рэспубліка стане яшчэ больш блізкай да нас.



## *1000–годдзе Полацкай Епархіі*

### ПЕРАДСВЯТОЧНАЯ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

16 верасня Беларускі экзархат правёў прэс-канферэнцыю з нагоды святкавання 1000-годдзя Полацкай Епархіі і Праваслаўнай царквы на Беларусі.

Яе ўдзельнікі атрымалі інфармацыю аб тым, чаму менавіта гэты год быў вылучаны для адзначэння свята. Па гістарычных даных вядома што ў 992 годзе кіеўскі князь Уладзімір разаслаў сваіх сыноў на княжанне ў розныя гарады. Ізяслаў, які жыў да гэтага са сваёй маці Рагнедай у Заслаўі, атрымаў ад бацькі Полацк. Вядома, што мітрапаліт Кіеўскі Лявнцій накіраваў з княжатамі епіскапаў. Яны павінны былі дапамагаць маладым князям "веру православную непорочно держать", а тыя абавязаны былі ў гэтай справе "с епископами советовати". Паводле меркаванняў даследчыкаў менавіта тады і была заснавана Полацкая епархія.

Мітрапаліт Мінскі і Гродзенскі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, іншыя святары і навукоўцы-гісторыкі, якія праводзілі прэс-канферэнцыю, адказалі на шэраг зададзеных журналістамі пытанняў. Тых цікавілі адносіны праваслаўнай царквы і яе кіраўнікоў да лёсу культавых архітэктурных помнікаў, якія ў наш час выкарыстоўваюцца ў якасці ўстаноў культуры, узаемаадносіны з іншымі хрысціянскімі канфесіямі, перспектывы пераходу царкоўнай службы на беларускую мову.

Перад завяршэннем прэс-канферэнцыі ўдзельнікаў азнаёмілі з праграмай правядзення мерапрыемстваў, якія прысвечаны 1000-годдзю Полацкай Епархіі і Праваслаўнай царквы на Беларусі. Яна ўключае:

24 верасня (у чацвер, Мінск) – урачыстае адкрыццё свята. У 18.00. малебен перад Цудатворным абразом Божае Маці, названым "Мінскі", у Свята-Духавым кафедральным саборы напярэдадні пачатку юбілейных святкаванняў.

25 верасня (у пятніцу). 9.30. Навуковая канферэнцыя, прысвечаная 1000-годдзю Полацкай епархіі і Праваслаўнай Царквы на Беларусі. АН БССР.

18.30. Урачысты вечар, прысвечаны святу. Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Рэспублікі Беларусь.

26 верасня (у суботу). Заслаўе. 9.30. Чын асвячэння Крыжа на старажытным гарадзішчы Замэчку.

10.15. Шэсце з Хрэсным ходам да Спаса-Прэабражэнскага храма.

10.45. Малебен.

У той жа дзень свята працягваецца ў Полацку:

18.00. Вячэрняе святочнае набажэнства ў Свята-Крыжа-Уздзвіжанскім саборы Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра.

27 верасня (нядзеля). 6.00. Ранняя літургія ў Спаса-Прэабражэнскім храме Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра.

8.00. Сярэдняя літургія ў Свята-Крыжа-Уздзвіжанскім саборы Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра.

8.00. Вадасвятны малебен у Полацкім Свята-Багаяўленскім саборы.

9.45. Архірэйская сустрэча ў Сафійскім саборы.

10.00. Святая літургія.

12.30.–14.00. Хрэсны ход ад Сафійскага сабора ў Спаса-Еўфрасіньеўскі манастыр.

14.00. Малебен, узнясенне мошчаў прападобнай Еўфрасінні і Хрэсны ход з мошчамі па саборнай плошчы манастыра.

15.00. Прэс-канферэнцыя (трапезная царква Спаса-Еўфрасіньеўскага манастыра).

**Мікола Багадзяж.**

# «ПАС»–ПАЛІТЫКА-АНАЛІТЫЧНАЯ СЛУЖБА

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

*Са сваёй званіцы*

## "НЕПРЫНЯЦЦЯ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ НЯМА"

Мне хацелася б выказацца з нагоды вашае публікацыі "Талерантнасць, дэмакратычнасць, свецкасць...", змешчанай у нумары за 22.06.—28.06.1992 г.

Аўтар гэтае публікацыі не асабліва адыходзіць ад тых нормаў, якія мы ўсе, мабыць, вельмі трывала засвоілі пад час вывучэння марксізму-ленінізму. Так, сапраўды, вельмі пераканаўча і прывычна, калі любая з'ява мае тры "источника" і тры састаўныя часткі. Ці можа тут нейкія паралелі з увараўскай формулай "самодержавие, православие, народность"?

Такім чынам, "талерантнасць". Прыгожае гэтае слова выкарыстоўваецца цяперашнім часам шырока і шматгранна, асабліва для характарыстыкі нейкай асаблівасці, адметнасці беларусаў. Аднак тое, што хочуць вызначыць гэтым тэрмінам, у некаторых выпадках выкарыстання не адпавядае таму, што ўласна азначае гэтае слова.

Звернемся да слоўнікаў. На нямецкай мове ёсць слова toleranz, якое перакладаецца як "цярпімасць" або, для сферы тэхнікі, — "допуск". Англійскі тэрмін tolerance мае зноў жа значэнні "цярпімасць", "допуск" і, спецыяльна для фінансавай сферы, "дапусцімае адхіленне памераў і вагі манеты". А мы ж усё часцей схіляемся да таго, каб называць гэтым прыгожым словам звычайную абыякавасць. У прымяненні да праблемаў адраджэння пад паняццем "талерантнасць" трэба, мабыць, разумець не памяркоўнасць, як прапануе аўтар, (бо пад памяркоўнасцю ў сваю чаргу кожны можа падразумяваць амаль усё, што ён захоча, — аж да няздольнасці прымаць рашэнні з хуткасцю, якой вымагаюць абставіны), а нешта больш вузкае. Да прыкладу — здольнасць зразумець іншага чалавека, дапусціць, каб гэты іншы чалавек вызнаваў якуюсь іншую рэлігію або не вызнаваў ніякай, каб, як той казаў, крок управа ці крок улева не лічыўся спробай збегчы. І не галоўная праблема нашага часу ў тым, што "існуюць пэўныя, дакладней сказаць, нацыяналістычныя групы, якія пад сцягам адраджэння нацыянальнай культуры кантрабандай праводзяць ідэйку... недаверу да ўсяго рускага без усякага адрознення прагрэсіўнага і рэакцыйнага ў рускай культуры". Пабойцеся Бога! У нашых усходніх суседзяў дастаткова сваіх светлых галоў, каб неяк разабрацца ў тонкасцях сваёй культуры, вызначыць у ёй прагрэсіўныя ці, наадварот, рэгрэсіўныя плыні. Ці не напамінае гэтая наша "трогательная забота" аб у нечым можа і блізкай, але ўжо замежнай культуры нашае колішняе занепакоенне праблемамі неграў у Амерыцы? Нашая задача, задача ўсіх свядомых людзей Бацькаўшчыны — вывучэнне сваёй культуры, асваенне свайго велізарнага багацця, аб існаванні якога нас так доўга адвучвалі нават думаць. Вось і талерантнасць, тут праўда аўтара, з'яўляецца адным з тых здабыткаў, якія нам трэба берагчы і памнажаць. Толькі я хацеў бы разумець пад гэтым тэрмінам тое, што ён сапраўды азначае, а не нейкую аморфнасць ці сонны стан, які дазваляе апускаць на беларускую зямлю радыяцыйнае воблака і адмаўляць затым у фінансаванні антычарнобыльскай праграмы з тае нагоды, што "Союза нет" (адказ Б.Ельцына на прэс-канферэнцыі ў Мінску).

"Дэмакратычнасць". Супраць дэмакратыі як спосабу арганізацыі грамадства пярэчыць немагчыма. І гэтым паняццем заўсёды карыстаюцца хто як можа, прычым кожны вызначае сабе крытэрыі дэмакратычнасці сам. Напрыклад, пан Жырыноўскі і яго тутэйшыя аднадумцы дэмакратычным лічаць тое і толькі тое, што адносіцца да іх партыі. Яны так і кажуць: "гэта не дэмакратычна, бо не мае нічога агульнага з намі". Самыя пачварныя плыні нацягвалі і заўсёды будуць нацягваць на сябе тогу дэмакратыі. Яшчэ ні адзін дыктатар не заявіў, што ён ажыццяўляе свой дыктат для сваёй асабістай карысці — не, усе яны сябе не шкадуюць дзеля "блага народа". Аднак усё гэтае не можа кінуць цень на сам прынцып дэмакратыі, які азначае ўдзел у кіраванні грамадствам самых шырокіх народных мас, а не толькі прадстаўнікоў нейкага асаблівага "тончайшего слоя".

Так што дэмакратычнасць, безумоўна, павінна ўвайсці ў самы сціслы пералік неабходных нам якасцей. Вось толькі наконт таго, што працоўны чалавек не можа ў нас верыць у праўду грошай... Мне не здаецца, што гэта добра. У справядлівым грамадстве менавіта грошы павінны быць мерай чалавечай працы як нейкі агульнапрыняты эквівалент. У чалавека ў такім грамадстве павінны быць інтарэс і магчымасць зарабіць дастатковую суму грошай сумленнай працай або сумленнай прадпрымальніцкай дзейнасцю і павінны быць інтарэс і магчымасць зэканоміць грошы і накапіць іх для якой-небудзь далёкай і магчыма неакрэсленай мэты. Такога, каб сумленнай працай заробленыя і перададзеныя дзяржаве на захаванне грошы станавіліся пракляццем і прадметам здзеку нядобразычліўцаў, (як тое адбылося з укладамі грамадзян у ашчадным банку), у дзяржаве, якая імкнецца стаць справядлівай, адбывацца не павінна. Застаецца спадзявацца, што калі нашая дзяржава стане сапраўды беларускай і сапраўды прыстойнай, яна вернецца да вырашэння гэтага пытання, бо на гэтай зямлі спрадвеку было прынята вяртаць тое, што пазычыў, нават калі і сам адчуваеш пэўныя цяжкасці.

Асабліва ж непрыемным для мяне было імкненне аўтара паставіць пад сумненне дэмакратычнасць Закону аб мовах, які абвяшчае дзяржаўнай на тэрыторыі нашай краіны беларускую мову. Колькі ўжо можна вяртацца да аднаго і таго ж пункту нашага шляху. Нават дастаткова кансерватыўны наш парламент і то здолеў разабрацца ў гэтым пытанні. Бо людзі зразумелі, што інакш у хуткім часе ў нас не будзе ніякага парламенту, а толькі прысланая губернская адміністрацыя "а ля Жырыноўскі". І не трэба тут падсоўваць нейкія дэмакратычныя патрабаванні. Ніхто нікому не забараняе гаварыць і вучыцца на той мове, якая яму падабаецца. Аднак калі мы маем намер ствараць беларускую дзяржаву, то павінны ўлічваць рэальны стан рэчаў у гэтым пытанні. А ён такі, што беларусу на гэтай зямлі пагражае канчатковае вынішчэнне, а іншай зямлі яму ніхто не дасць. Мне шмат даводзіцца размаўляць з самымі рознымі людзьмі, бо цяперашняе маё месца працы — прыёмны пакой буйной медыцынскай установы, тут людзі заўсёды гатовы выказацца аб тым, што іх найбольш турбуе. І я магу сцвярджаць, што актыўнага непрыняцця беларусізацыі няма.

**А.УРБАНОВІЧ,**
**інжынер.**
**г.Гомель.**



Мітынг, над якім луналі сцягі неіснуючых СССР і БССР, чорна-жоўта-белы штандар Расейскай імперыі прайшоў 17 верасня на плошчы Незалежнасці.

Фота У.Панады.

*Нашы пераклады*

### "Czasopis". Польшча

НЬЮ БРАНСВІК. 5—7 верасня прайшло 20 юбілейнае спатканне беларусаў Паўночнай Амерыкі. Лозунг сёлетняга спаткання — "Беларусь на шляху да незалежнасці (да 75-х угодкаў Першага Усебеларускага кангрэсу)". Арганізатарамі імпрэзы былі Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне і Згуртаванне беларусаў Канады. У праграме праводзіліся разнастайныя сустрэчы, прысвечаныя як актуальнай дзейнасці (між іншым фундацыі "Адраджэнне"), так і мемуарнага характару (спатканне былых навучэнцаў гімназіі ім. Я.Купалы, якая існавала ў пасляваеннай Нямеччыне). Сустрэчу віталі прэзідэнты Дж.Буш і Ст.Шушкевіч.

БЕЛАСТОК. Ад 1 жніўня, са зменай каналаў трансляцыі, праграму Беларускага тэлебачання стала магчымым глядзець у Польшчы. У перспектыве цяперашні канал Расейскага ТБ будзе пераўтвораны ў другую праграму Беларускай тэлевізіі. Увогуле, праграмы ТБ робяцца на вельмі нізкім тэхнічным узроўні. Выклікае засцярогі таксама мэрытарычны бок. Яшчэ няшмат перадач беларускамоўных, затое пастаянна здараюцца казусы тыпу: дыктар "Панарамы" чытае па-беларуску паведамленні, прабачаецца за свой хранічны кашаль у эфіры: "Простіте товарішчі..."

ЛОНДАН. Беларуская бібліятэка імя Ф.Скарыны ў Лондане выдала зборнік нідзе не публікаваных вершаў Ларысы Геніюш, напісаных у гадах з 1945 па 1947 пасля трагічных праследаванняў, вынікамі якіх стала высылка паэткі ў савецкія канцлагеры. Менавіта цяпер гэта вялікае постаць беларускай літаратуры і культуры знаходзіць належнае ёй месца ў памяці свайго народа.

"ПАС" падрыхтавала Алена Агібалава, рэдактар па пытаннях палітыкі, тэл. 39-87-94

*Эканамічны пасьянс*

## ТАКІЯ РОЗНЫЯ ГРОШЫ

Мы прывыклі да таго, што грошы бываюць папяровыя і металічныя. Між іншым, у старажытныя часы былі "футравыя" грошы. Футрамі вавёрак і куніц разлічваліся за заморскія тавары. Былі калісьці і грошы, якія ўяўлялі сабой звязкі ракушак, клыкоў і свіных хвосцікаў. Дарэчы, і зараз у папуасаў можна ўбачыць ракушкі, якія служаць і ўпрыгожаннем, і грашовымі знакамі.

Самыя старажытныя "манеты" – металічныя прылады працы і зброя. Грошы, якія знайшлі археолагі на паўночным узбярэжжы Чорнага мора, адлітыя ў выглядзе рыбак і дэльфінаў. У Францыі знайшлі манеты, падобныя па форме на нагу кабана. Манета ў выглядзе хваста слана мела абарот ва Усходняй Афрыцы.

На востраве Санта-Клаус, які знаходзіцца ў паўднёвай частцы Ціхага акіяна, і ў нашы дні прымяняюцца грошы, якія вырабляюць з птушынага пер'я. Традыцыйны выкуп за нявесту можа быць выплачаны толькі "птушынай валютай". Гэта дзесяціметровыя паясы з цёмнага пер'я голуба, арнаментаваныя ярка-чырвонымі пёрамі мясцовай птушкі – медасаса. Для вырабу аднаго пояса патрабуецца аскубці каля 300 медасасаў, а звычайны кошт выкупу – 15 такіх "банкнотаў".

Калісьці і чай быў грашамі. У Кітаі, Манголіі, Тыбеце і Сібіры лісце яго здрабнялі, змешвалі з крывёй быка і вадой, прасавалі ў пэўныя па вазе брыкеты. У Тыбеце і краінах, мяжуючых з Індыяй, такая "манета" мела намінал адну рупію. А напой з гэтых "грошай" лічыўся лекамі ад многіх хвароб.

У другім паўшар'і – Паўночнай Амерыцы – ў якасці грошай выкарыстоўвалі табак. Фунт вірджынскага табаку – гэта тры шылінгі. На яго можна было купіць пэўную колькасць мукі, фасолі, паркалю...

У мінулым стагоддзі расійска-амерыканская кампанія на Алясцы друкавала свае грошы на тонка выробленай скуры цюленя. У залежнасці ад кошту манеты мелі розную форму і памеры. Гэта рабіла лягчэйшым апазнаванне знакаў абарыгенам і непісьменным працоўным.

На астравах Анамбас (Інданезія) выкарыстоўваюць у якасці разменных манет... форменныя салдацкія гузікі. На тамтэйшых базарах маюць каштоўнасць гузікі былой японскай Імператарскай арміі часоў другой сусветнай вайны і салдат арміі ЗША. Але асаблівую каштоўнасць маюць бронзавыя гузікі ваеннаслужачых былой галандскай каланіяльнай арміі.

Не кожнаму вядома, што пад час англа-бурскай вайны былі ў абароце грошы, надрукаваныя на рэштках салдацкага абмундзіравання. А на востраве Кілінг-Какос, што ў Індыйскім акіяне, выдадзены ў абарот манеты з пластмасы рознай афарбоўкі, якія прыйшлі на змену старажытным са слановай косці. Незвычайны кошт указаны на газеце з вострава Трыстан-да-Кунья: "Тры цыгары або тры бульбіны".

У першай палове XYIII стагоддзя на Екацерынбургскім манетным двары выдаваліся медныя рублі ў выглядзе чатырохвугольных плітак, заклеймаваных 5 штэмпелямі. Важыла такая манета 1,64 кілаграма. Пазней чаканіліся ўжо круглыя манеты – "сестрарэцкія рублі", але вага захоўвалася такой жа. У тыя часы ўзнагароды былі такія ж цяжкія, як і пакаранні. Аднойчы за оду ў свой гонар імператрыца падаравала М.В.Ламаносаву дзве тысячы рублёў меднай манетай. Даставілі гэты падарунак на дзвюх фурманках, і важыў ён 1800 кілаграмаў.

По матэрыялах друку.

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ "ЧАРАДЗЕЯ"

**Дзяржаўная палітыка — паняцце складанае, нават я сказаў бы, непастаяннае. Яшчэ некалькі гадоў таму немагчыма было нават марыць аб тым, каб прыватызаваць ці проста ўзяць у арэнду дзяржаўнае прадпрыемства — будзь гэта завод ці невялічкая цырульня. Цяпер жа сітуацыя змянілася настолькі, што раздзяржаўленне стала адной з галоўных мэт эканамічнай палітыкі беларускай дзяржавы.**

**На прыкладзе салона-цырульні "Чарадзей", што на праспекце Скарыны ў Мінску, можна яскрава адлюстраваць працэсы, якія адбываюцца зараз у тым сектары эканомікі, які больш за ўсё падыходзіць да першапачатковага раздзяржаўлення — у сістэме бытавога абслугоўвання насельніцтва.**

**Наша гутарка з загадчыцай салона "Чарадзей" Аленай Рыгораўнай ЗАМЖЫЦКАЙ абяцала быць цікавай...**

– Алена Рыгораўна, як мы даведаліся, ваш салон, дарэчы, адзін з лепшых у горадзе, вядзе барацьбу за, так бы мовіць, пераход на новую форму ўласнасці...

— Барацьбу — гэта занадта моцна сказана. Усё пачалося ў лістападзе 1991 года, калі мы стварылі арганізацыю арандатараў, вырашылі ўзяць наш салон у арэнду. Пытанне аб гэтым узнікла тады, калі стала зразумелым, што палітыка аб'яднання "Усход", да якога мы адносімся, нас не задавальняе. Не дзеля пахвальбы — у "Чарадзеі" працуюць майстры вышэйшага класа, не толькі ў сэнсе прафесіяналізму, але і ў адносінах да кліента. Ведаеце самі, такое сустракаецца рэдка — менавіта радасць ад сустрэчы з чалавекам, а не распаўсюджанае вядомае "Чаго табе трэба?.."



Ні кліентаў, ні выручкі...

Мы прасілі былую загадчыцу салона, каб узначаліла арэндны калектыў. Тая не ўзяла на сябе такую адказнасць, і ўсімі справамі пры пераходзе на арэнду давялося займацца мне. А які ж у мяне вопыт? Праўда, я ў салоне 10 гадоў адпрацавала, але, калі высветлілася, колькі ўсяго трэба ведаць, у якіх юрыдычных лясах блукаць... Але ж навучылася! Тут так: калі не задавальная сістэма, у якой прыходзіцца працаваць, не трэба плакацца ў камізэльку — трэба мяняць гэтую сістэму. Але ж як гэта цяжка!

Вось вы кажаце — барацьба. Я сказала бы па-іншаму: адсутнасць падтрымкі. Абсалютна да ўсяго прыходзілася дакопвацца нам самім, з боку ж аб'яднання "Усход" ніякіх падказак не было. Наадварот, былі доўгія, нудныя, дробныя разборкі, і гаварыць аб іх нават не хочацца. Актыўнага ж супраціўлення не было.

– Вядома, бо зараз вы трапілі ў плынь накірунку палітыкі... Распавядзіце, калі ласка, пра сам працэс пераходу да арэнды.

— Тут нам вельмі дапамагло Упраўленне па дзяржмаёмасці і прыватызацыі. Акрамя таго, мы прадугледжвалі разнастайныя варыянты развіцця падзей — нават у разліку на адкрытае супраціўленне "Усхода". Паколькі ж яго не было, нам не давялося выкарыстоўваць ні забастовак, ні галадовак. Не ва ўсіх, праўда, пераход да арэнды праходзіў гладка — у цырульні "Кумір", напрыклад, даходзіла ледзьве не да пікетавання.

Сёння мы заключылі дамову з Упраўленнем бытавога абслугоўвання насельніцтва на арэнду салона. Сума арэнды — 100 тысяч у год. Камітэт па дзяржмаёмасці і арэндзе — адзіная арганізацыя, якая нам дапамагае — гарантаваў, што з намі будзе заключана дамова на доўгачасовую арэнду памяшкання.

– Наступны этап – выкуп?

— Так. Але тут паўстае пытанне: па якім кошце выкупляць маёмасць салона? Абсталяванне, якое праслужыла 9 гадоў, павінна быць спісана. Па астаткавым кошце ўсё, што вы тут бачыце, было ацэнена ў 39 тысяч рублёў. Памножце гэта на каэфіцыент 27,7, атрымаецце 1 мільён 100 тысяч. Лічыце самі — як мы зможам выплаціць такія грошы? Бясспрэчна, што гэта павінна адбіцца на кошце нашых паслуг — да нас проста перастануць прыходзіць. Ды хіба толькі ў грошах справа? Вы можаце пастрыгчыся максімум за паўгадзіны. Нашы ж майстры стаяць за сваімі крэсламі цэлую змену. Праца цяжкая — і фізічна, і, можа нават у большай ступені, маральна. Мы працуем з людзьмі, паглынаем іх эмоцыі, я нават назвала бы майстроў-цырульнікаў свайго роду псіхатэрапеўтамі. Сапраўды, усе хочуць быць прыгожымі, не пойдуць жа людзі стрыгчыся, як раней, "пад гаршчок"! Наш дэвіз — дэвіз рынку: "Мы працуем для вас!" Гэта не проста прыгожыя словы, гэта надзённая неабходнасць, якая дыктуецца канкурэнцыяй. А каб у гэтай канкурэнцыі не прайграць, патрэбна рэканструкцыя, замена абсталявання, а гэта ж таксама падымае кошт на паслугі. Тут нічога не папішаш — рынак. Мы і так павінны падзякаваць гарвыканкаму за тыя льготы, якія мы маем, — гадавая плата каля 38 рублёў за квадратны метр плошчы, а не ў 10—20 разоў болей, дазваляе нам не настолькі інтэнсіўна ачышчаць кішэні жадаючых мець прыгожую прычоску. Але ж падаткі на фонд заработнай платы проста жахлівыя. Гэта ж аксіёма: каб чалавек добра ставіўся да сваёй працы — ён павінен быць матэрыяльна заахвочаны. Толькі тады ён будзе прыходзіць у салон, не як быццам адбываючы павіннасць, а з імкненнем ствараць прыгажосць.

– Алена Рыгораўна, мне прыходзілася сустракацца з яўным нежаданнем кіруючых арганізацый адпускаць на свабоду сваіх падначаленых...

— Ведаеце, што цікава? Усе падраздзяленні аб'яднання "Усход" нерэнтабельныя, прыбытку не прыносяць. Але ж па "ўсходаўскіх" паперах гэта нерэнтабельнасць пераўтвараецца ў прыбытковасць! Аказваецца, галоўная навука — навука запаўняць паперы... Гэтаму ў кіраўніцтва "Усхода" можна павучыцца... Абмежаванне ўзроўню рэнтабельнасці да 30 працэнтаў павінна не столькі абмежаваць цану на паслугу, колькі стварыць антыманапольную сістэму. Акрамя ўсяго, мы вельмі і вельмі зацікаўлены ў колькасці наведвальнікаў, у абароце!

– Наконт колькасці кліентаў: ці панізілася яна?

— На жаль. Раней да нашых майстроў выстройваліся чэргі — усё ж такі цэнтральны салон, вядомыя, таленавітыя майстры. З павышэннем цэн многім проста не па кішэні не толькі наш салон, але і стрыжка наогул.

– А ці ўвесь калектыў цырульні быў згодны з пераходам на арэнду?

— Усё, што мы робім, робім па волі калектыву. Не магу сказаць, што ўсё праходзіла надта гладка, былі і сумненні, і спрэчкі. Але ніхто ні на кога не ціснуў. Зараз у нас працуе 32 майстры, і я не думаю, што хто-небудзь з іх шкадуе аб прынятым рашэнні. Увогуле, мы не прымаем канфлікту, як сродку вырашэння праблем. Сама спецыфіка нашай працы не дазваляе нам нервавацца самім і нерваваць наведвальнікаў...

– Канешне, акрамя ўсяго, вы маеце справу з вострымі прадметамі...

— Жарты жартамі, але хіба Вы ніколі не заўважалі, што пасля добра выкананай стрыжкі значна паляпшаецца настрой? Так што хадзіць і мармытаць сабе пад нос, маўляў, вось як усё ў нас дрэнна, проста нелагічна і нявыгадна.

– А як вы наогул ставіцеся да арэнды як формы працы?

— На мой погляд, гэта форма не рабочая. Як пераходная да іншых формаў яна мае права на жыццё, але не больш. Яна не гібкая, не жыццяздольная. Кожны атрымлівае сваю долю маёмасці, суадносна з гэтым — прыбытку, і можа рабіць з ёй усё, што пажадае. Але як падзяліць салон-цырульню, калі хто-небудзь захоча выйсці з арэнднага калектыву? Трэба шукаць штосьці новае, шукаць баланс паміж людзьмі, і вельмі хацелася б, каб баланс гэты грунтаваўся на надзейнасці, на бесперапынным пошуку новага.



А можа, калі-небудзь і ў нас будзе так?

Цікава, якое распаўсюджанне атрымала такая форма працы, як арэндны падрад? Ці многія прадпрыемствы бытавога абслугоўвання і цырульні, у прыватнасці, вырашылі стаць канчаткова самастойнымі? На гэтыя пытанні нам адказалі ва Упраўленні бытавога абслугоўвання Мінгарвыканкама.

Аказваецца, што менавіта зараз пераход на арэнду набірае моц. Ва ўсіх калектывах аб'яднання "Усход" праходзяць сходы, дзе абмяркоўваецца і рашаецца далейшы лёс прадпрыемстваў – ці пажадаюць яны застацца ў складзе аб'яднання альбо стаць самастойнымі. Пакуль аб гэтым сваім жаданні заявілі калектывы трох цырульняў. Наогул па прадпрыемствах бытавога абслугоўвання карціна прыкладна такая ж: ствараюцца арэндныя калектывы, таварыствы з абмежаванай адказнасцю, іншыя формы пакуль не прыжываюцца – не хапае вопыту.

Здаецца, ніхто не прымушае людзей шукаць новыя метады працы. Ніхто – канкрэтна. Само жыццё дыктуе неабходнасць станавіцца гаспадарамі. Хацелася б верыць, што салон-цырульня "Чарадзей" выстаіць, захавае свой цудоўны таленавіты калектыў і, сеўшы ва ўтульнае крэсла, кожны з нас зможа пачуць ветлівае "Як вас пастрыгчы?"

Алесь ПАЛЫНСКІ.

# ДЫЯГЕНАВА БОНДА

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

*Першы ліст на новую рубрыку*

**Шаноўная рэдакцыя "ЧЗ"!**

**Дзякую вам за з'яўленне рубрыкі "Дыягенава бонда". Даўно ўжо адчувалася патрэба да выказвання беларускіх ідэй на тэмы, далёкія ад "каўбасы і палітыкі", але месца для гэтага на старонках друку ніколі нетавала. Спадзяюся, што "ДБ" дасць добры штуршок для развіцця маладой беларускай думкі.**

**А зараз аб прыватным. Прапаную вам аналітычны артыкул ці можа эсэ (не ведаю, як гэта лепш назваць і да якой рубрыкі аднесці), які спецыялістам магчыма падасца занадта аматарскім, але...**

## СВАЯ ЛЕСВІЦА Ў НЕБА

Рэлігія, у маім разуменні, — ня толькі вера ў Хрыста ці царкоўныя інтэрпрэтацыі гэтай веры, але наогул Вера ці Нявер'е чалавека ў тое, што непадуладна яго разуменню і вопыту. Магчыма, гэта й вельмі далёка ад адпраўлення культаў, але чалавек, які жыве на зямлі, думае і пра неба, а "неба" ягонае не такое ўжо далёкае. Таму рэлігія, у шырокім разуменні, закранае ў рэшце рэшт кожнага чалавека.

Сучаснае рэлігійнае становішча на Беларусі я назваў бы не проста звычайным, але й унікальным. Мяркуйце самі: тут аднаўляецца спрадвечнае супрацьстаянне магутнейшых плыняў хрысціянства — каталіцызму і праваслаўя, актыўна дзейнічаюць у барацьбе за вернікаў шматлікія адгалінаванні пратэстанцкай царквы, паўстае з нябыту ідэя ўніяцтва. І ўсё гэта адбываецца на ссохлай глебе прымітыўнага савецкага атэізму, які сам ледзь не зрабіўся рэлігіяй. Ён паставіў замест абразоў — "кананізаваных" правадыроў, накшталт тых рымскіх імператараў, якія загадвалі лічыць сябе багамі. Ёсць у гэтай стракатай карціне яшчэ адзін цікавы момант, характэрны толькі для Беларусі. У нашым народзе, як ні дзіўна, захаваліся моцныя паганскія традыцыі, старажытныя язычніцкія карані, якія не перарвала нават тысячагадовае панаванне хрысціянства. Хто бачыў такія нашы святы, як Каляды, Дзяды, Купалле, ды знаёмы з народнымі паданнямі і звычкамі можа пераканацца, што паганства на Беларусі — не прывід ці фантазія, а рэальная частка нацыянальнай культуры, а то й адна з адметных рыс беларускага мэнталітэту. Верагодна, гэта стала магчымым дзякуючы складаным умовам усталявання веры Хрыстовай у нашым краі, доўгай барацьбе царквы ўсходняга і заходняга абраду і ўтварэнню своеасаблівай прамежкавай тэрытарыяльнай, часавай і духоўнай прасторы. У гэтай "шчыліне" паміж жалезнай плітой каталіцтва, прыціснуўшай Заходнюю Еўропу, і каменнай глыбай праваслаўя ўрослай у зямлю Расеі і захаваліся рэшткі паганства — старажытнай веры нашых продкаў.

Такім чынам, рэлігійна-духоўнае жыццё сучаснай Беларусі ўяўляе сабой кацёл, у якім перамешана ў розных прапорцыях і паганства, і хрысціянства, і атэізм і, апошнім часам (у невялікай колькасці) экзатычныя ўсходнія веравызнанні. Пануючым, нягледзячы на крах сваіх інстытутаў, застаецца камуністычны атэізм. І будзе, відаць, яшчэ доўга заставацца ім, бо дужа пастараліся "аратыя" марксізму-ленінізму, выкарчоўваючы з нашай свядомасці ня толькі веру ў Бога ці імкненне нешта ведаць аб рэлігіі, але наогул — любую цікавасць да духоўных пошукаў і сумненняў. Не трэба перабольшваць значэнне хрысціянства ў нашым грамадстве на сучасны момант. Пакуль ягонае ўздзеянне даволі сціплае, нягледзячы на актыўную рэхрысціянізацыю ў розных кірунках. Найменш вывучаны і асэнсаваны для нас уплыў самай старажытнай сістэмы светапогляду — паганства.



Традыцыйнае ўспрыманне паганства як чагосьці недаразвітага, бездухоўнага ці наогул "негуманнага" прыйшло да нас ад хрысціян. Гэта й зразумела, бо са з'яўленнем веры Хрыстовай яны зрабіліся канкурэнтамі ў барацьбе за людскія душы, і ў гэтай барацьбе не было месца аб'ектыўнаму аналізу ці ўзаемаразуменню, а выкарыстоўваліся ўсе метады — ад ідэалагічнай дыскрэдытацыі і "аблівання брудам" да гвалтоўнага прымусу і фізічнага вынішчэння. Гісторыя амаль паўтарылася ў нашы часы. Толькі на месцы паганства апынулася сама хрысціянская царква, а галоўным суддзёй і сцвярджальнікам апошняй ісціны стаў бальшавіцкі атэізм. І як бы мы ні хацелі, ужо ніколі ня здолеем адрачыся ад гэтага цяжкага вопыту, як і наогул ад вопыту сусветных інтэлектуальных і духоўных пошукаў. Але зараз прыспеў час, калі можна спакойна і засяроджана разабрацца, што адбылося і адбываецца ў нашых душах, куды вядуць нас шляхі пошукаў вечнай ісціны.

Калі характарызаваць паганства ўвогуле, то можна сказаць, што гэта сістэма поглядаў, якая імкнулася да гарманічнага ўладкавання чалавека ў Прыродзе. У тыя часы чалавек яшчэ не вылучаў сябе з навакольнага асяроддзя, быў яго часткай. Прыродай кіравалі багі, чалавек пакланяўся ім, як і асобным прыродным з'явам. Парушэнне прыродных законаў, разбурэнне яе сістэм немагчыма тады было не толькі з-за адсутнасці навукова-тэхнічных дасягненняў, але і з-за боязі прагнявіць багоў, трапіць у няміласць да прыроды, парушыць раўнавагу навакольнага свету. Гэта былі часы, калі чалавек адчуваў сваю слабасць і безабароннасць, вялікую залежнасць ад прыроды і таму ведаў сваё месца і мяжу сваіх магчымасцяў. Зразумела, не трэба ідэалізаваць тыя часы, бо калі карыстацца катэгорыямі свабоды, то тады яе для чалавека амаль не было — усе жыццёвыя намаганні былі скіраваны на выжыванне і працяг роду. Хрысціянства стала наступнай прыступкай да свабоды чалавека і яго свядомасці, але й прынесла пэўныя страты. У паганстве багі жылі асобна ад людзей (а дакладней, над людзьмі) і шляхі іх не перасякаліся, хаця самі багі неслі антрапаморфныя рысы (у тым праявілася спрадвечнае імкненне людзей да ачалавечвання прыроды і яе з'яў). У хрысціянстве ўпершыню шляхі Бога і Чалавека перакрыжаваліся: у вобразе Ісуса Хрыста быў створаны Бога-Чалавек, валодаючы людскім аблiччам і боскімі якасцямі. Можна сказаць, што чалавек паставіў сябе значна вышэй за ўсіх астатніх істот і гэтым пачаў будаваць глухую сцяну. Яна ізалявала яго ад маці-прыроды. Ісус Хрыстос явіў сабой прэцэдэнт "Бога сярод людзей" ці "Сына Божага на зямлі", і зусім натуральна, што пасля яго былі шматлікія спробы новых "бога-чалавекаў" з іншымі мэтамі і здольнасцямі. Менш звяртаецца ўвагі на другі бок гэтага вучэння. Коратка яго можна акрэсліць як сцвярджэнне права чалавека на неабмежаванае панаванне над прыродай, дазвол на ўмяшанне ў яе законы дзеля сваёй карысці. Аб гэтым Святое Пісанне не кажа так прама, але такая выснова натуральна вынікае з ідэі аб выключнасці чалавека, а тым больш Бога-Чалавека з астатняй прыроды, аб наканаванні яму нейкай незвычайнай і звышкаштоўнай місіі. Менавіта гэтая як бы з'явілася ўнутраным рухавіком хрысціянскай цывілізацыі і ў вялікай ступені паспрыяла геаграфічнай і духоўнай экспансіі ў знешні свет, а таксама паскоранаму ўнутранаму развіццю ў галіне вытворчасці, палітыкі, культуры. Але і знешняя і ўнутраная экспансіўнасць хрысціянства мела й небяспечныя вынікі — экалагічная праблема, своеасаблівы рахунак нашай цывілізацыі за гвалтоўна-пагардлівае стаўленне да прыроды.

Цікавым, але дыялектычна наканаваным вынікам з'явілася таксама нараджэнне ва ўлонні хрысціянскага свету розных іншых рухаў, у тым ліку і "магільшчыка" хрысціянства — камуністычнага атэізму. Як хрысціянства ўзрасло на глебе іудаізму, так і атэізм, у тым ліку і ягонае радыкальнае бальшавіцкае крыло, узгадаваўся і даў плады пад уплывам хрысціянства. Калі зірнуць на гэта яшчэ шырэй, то можна заўважыць, што камунізм наогул як сістэма светапогляду мог узнікнуць толькі ў хрысціянскім свеце. Невыпадкова, што ні будызм, ні канфуцыянства, ні індуізм ці іншыя рэлігійна-духоўныя сістэмы не змаглі спарадзіць чагосьці падобнага. І хоць камуністы заўжды штучна адгароджваюцца ад хрысціян, шукаючы свае вытокі ў старажытных грэкаў-матэрыялістаў, ды ёсць у іх шмат агульных прынцыпаў з вучэннем Хрыста.

Што ж новага прынёс атэізм, ці быў ён чарговай прыступкай да свабоды чалавечага духу? Зараз, у часы посткамуністычнай "адрыжкі", мала хто возьмецца адказваць на гэтае пытанне станоўча. Па законах прыроды з "глыбокага" камунізму, падштурхоўваемыя спружынай дыялектыкі, мы шпарка рухаемся ў "высокі" антыкамунізм. Такім чынам, атэізм абвясціў абсалютную каштоўнасць чалавека. Бога не існуе, чалавек ні ад каго не залежыць, ён, адзіны, уздымаецца над светам на недасягальныя вышыні. У пэўным сэнсе тут працягнута традыцыя хрысціянства па вылучэнню і ўзвышэнню чалавека з прыроды, але даведзеная ўжо да сваёй крайняй, абсалютнай, нават празмежнай ступені. Гэтая небывалая магутнасць чалавека, неабмежаваная ніякімі маральнымі і прыроднымі законамі, яго звышсамакаштоўнасць, якая дзеля дасягнення сваіх мэтаў не спыняецца ні перад якімі перашкодамі, бязмежная, амаль абсалютная свабода прывялі да парадаксальнага выніку — абясцэньвання чалавека як індывідыума, занядбання правоў асобы, а ўрэшце — да страты ўсялякай свабоды. Але гэта парадаксальнасць лёгка вытлумачваецца дыялектыкай развіцця, калі нейкі працэс, праходзячы пэўную найвышэйшую кропку, трапляе ў празмежную прастору, то ператвараецца ў сваю супрацьлегласць. Такім чынам абсалютная каштоўнасць чалавека і абсалютная незалежнасць яго ад "законаў Адама і Евы", абвешчаная трыбунамі "светлай будучыні", на практыцы абярнулася для саміх стваральнікаў абсалютнай залежнасцю. Гісторыя камунізму яскрава прадэманстравала, як "Сын Божы" і "Чалавек з вялікай літары" можа ператварыцца ў просты будматэрыял для падмуркаў "найсправядлівейшага" грамадства. І нельга вінаваціць у амаральнасці ці крывадушшы правадыроў: у большасці яны былі абсалютна шчырымі ў сваіх імкненнях да лепшага жыцця, але ігнараванне законаў прыроды і грамадства караецца жорстка. Абсалютнае ігнараванне караецца абсалютна.

Такім чынам камуністычны атэізм, у тым выглядзе як ён паўстаў у XX стагоддзі, нягледзячы на імкненне да свабоды, прывёў да адваротных вынікаў. Тым не менш, гэта не тупік развіцця цывілізацыі, як здаецца многім, а выхад на новы ўзровень свядомасці па той самай знакамітай спіралі, якую так упадабалі эвалюцыяністы і дыялектыкі. Зараз настаў час прыгадаць паганскія прымхі і язычніцкае светаадчуванне, калі чалавек не адрываў сябе ад прыроды, а імкнуўся да гармоніі з ёй. Але ў сучаснасці гэтая патрэба ў вяртанні да сваёй маці адбываецца на іншай падставе — не з-за боязі гневу багоў ці страху парушыць табу, а з-за натуральнага ўсведамлення сваёй злучнасці са светам у прасторы, часе і сусветным руху. Асэнсаванне таго, што чалавек валадарыць прыродай ня больш, чым яна ім, прыводзіць да новага разумення свабоды, ды новых гарызонтаў пошукаў спрадвечнай існасці. Цяжка спрагназаваць кірункі, а тым больш вынікі гэтых пошукаў, але пэўныя заканамернасці магчыма ёсць. Калі разглядаюць геадухоўны ці геаінтэлектуальны зрэз праблемы, то можна заўважыць, што ўзнікненне прынцыпова новых ідэй як у культуры, так і ў навуцы ды тэхніцы звычайна бывае не ў цэнтрах панавання ўжо ўсталяваўшыхся поглядаў, а на іх перыферыі ці на межах сутыкнення розных сістэм. Таму, вяртаючыся да нашай тэмы, можна з вялікай доляй верагоднасці прадказаць, што ні замшэлая глыба праваслаўя, ні добра змазаны, але дагматычны механізм каталіцтва, ні жвава-дэмакратычнае ды рассыпанае дробным гарохам сект-пратэстанцтва ня здолеюць нарадзіць нешта прынцыпова новае, прарываючае інтэлектуальна-духоўны застой Эўропы і хрысціянскага свету. Занадта вялікі ў іх цяжар традыцый, скепсісу, самазадаволенасці і меркантылізму. Але ёсць на свеце іншыя месцы, своеасаблівыя "анамальныя" зоны, дзе яшчэ не выкрышталізаваліся пэўныя духоўныя і грамадскія рэчывы, дзе жыццё падымае віхуры ідэй і прымхаў, мар і хімераў, змешвае і падзяляе лёсы людзей і народаў. Адно з гэтых унікальных месцаў — Беларусь. І магчыма тут, у нашым "катле" з яго разнастайным духоўным варывам ужо ўзнікаюць новыя ідэі і вучэнні, хай не ў сэнсе традыцыйных рэлігій ці культаў. Яны ўвасабляюць новыя прынцыпы існавання чалавека, вяртаюць яго да гармоніі з прыродай і самім сабой, адкрываюць невядомыя прасторы нашай свядомасці.

**Васіль АЎРАМЕНКА.**

## *Падпіска-93*

### Выбіраю "ЧЗ"!

Паважаная "Чырвоная змена"!

Набыў у кіёску нумар вашай газеты пад грыфам "Падпіска-93" і ўпэўніўся ў тым, што і сапраўды ваша выданне саграе душу. Раней я чытаў апошні нумар мая, дзе былі пазначаны святы на чэрвень, чым газета вельмі спадабалася, а ў гэтым нумары спадабаліся добрыя, чалавечыя адносіны да чытача (іменна да чытача, а не да "глытальніка інфармацыі").

І вось на 2-й старонцы прачытаў наступнае: "Калі ж вас не задавальняе чымсьці наша інфармацыйная старонка альбо вы хочаце ўбачыць на ёй нейкія іншыя рубрыкі, то пішыце... Вашы прапановы, пажаданні будуць разгледжаны".

Вось і вырашыў вам напісаць. У сувязі з тым, што больш не будуць выходзіць "Навіны БНФ" і апазіцыя засталася без сродкаў масавай інфармацыі, хацелася б, канечне, каб вы калі-небудзь інфармавалі і пра Беларускі Народны Фронт (у сэнсе "жывога эфіру", а не пераказу). Наогул вельмі прываблівае, што вы проста, як з роўнымі, размаўляеце са сваімі чытачамі. У іншых газетах дык толькі "інфармуюць", а простай, чалавечай размовы няма...

З павагай А.К.,
Крупскі раён.

(Па просьбе аўтара не называем яго прозвішча поўнасцю).

### Бульба — поштаю

Ціха! Ідзе падпіска. Як, а вы яшчэ не падпісаліся? Тады хутчэй, спяшайцеся, бо разбяруць. Толькі, цур, са сваёю тараю. Мех? Вялікі? А без дзірак? Сойдзе! Як падпісвацца? Ды вы што, першы год у дэмакратычнай дзяржаве жывяце? Элементарна, Ватсан. Едзеш у Віцебск, заходзіш на пошту, запаўняеш абанемент, разборліва, без скарачэнняў, "У адпаведнасці з умовамі, выкладзенымі ў каталогах Саюздруку". Не забудзьцеся толькі пазначыць індэкс выдання, колькасць камплектаў і, вядома ж, заплаціць грошы. Астатняе – справа тэхнікі. Можаце аформіць падпіску з дастаўкаю на дом і не хваляваццa: разварыстую альбо смажаную, у мундзірах і без – гледзячы на чый густ – паштальён прынясе вам у сумцы кожную раніцу, акуратна пакладзе ў паштовую скрынку – падстаўляй мех ды высыпай. Падпіска прымаецца ўсімі аддзяленнямі сувязі тэрмінам на месяц, тры і нават на паўгоддзе, ледзьве не да новага ўраджаю. Так што, паважаныя грамадзяне суверэннае Беларусі, ад інфармацыйна-бульбянога голаду не памрэм.

Далібог, не брашу, каб мне з гэтага месца... Адкуль ведаю? Сам чуў, на ўласныя, так сказаць, вушы. Кагадзе абласное радыё паведамляла. Той, хто выпіша незалежную масавую газету "Віцебскі рабочы", аўтаматычна і бясплатна атрымоўвае тэлефонны даведнік арганізацый і прадпрыемстваў горада Віцебска. Падпісчыкі "Віцьбічаў" (ёсць такая гарадская газета) набываюць права змясціць адну бясплатную рэкламу ў газеце, яшчэ й латарэю надыбаюць, якую "Віцьбічы" арганізуюць спецыяльна да падпісной кампаніі. Канкурэнцыя! "Што ж тут прыдумаць нам?– разважае рэдактар "Народнага слова" Сяргей Рублеўскі.– Хіба падпісчыкам па мяшку бульбы паабяцаць?"

Так што, паважаныя гаспадынькі, трымайце вуха на ветры, бо дыму без агню...

Слухайце, браточкі, а наша "Чырвонка" хіба лысая? Як топішся, і за лязо ўхопішся.

**Уладзімір МІХНО.**

Падпіска—93. Наш індэкс 63129.

## ОБА-НА!

### Асабліва небяспечная Марыяна

Жарты жартамі, а апошнім часам трыумфальнае шэсце "мексіканскай Ізаўры" на беларускай зямлі дастаўляе нямала клопату міліцыі і мясцовым уладам: калі паказваюць "Багатых...", здзяйсняецца больш крадзяжоў, рэзка падае вытворчасць працы.

А ў Пінску днямі полымя любві да Марыяны ледзь загасілі, прычым у самым літаральным сэнсе слова, пажарныя. Пад час чарговай "порцыі" пакут гераіні на экране ў кватэры адной з паклонніц мексіканскага серыялу загарэўся тэлевізар. Не паспеўшы як след загасіць яго, жанчына пабегла да суседзяў, каб даглядзець серыю, не падазраючы, што паралельна з мексіканскімі страсцямі разгараецца нежартоўны пажар у яе ўласнай кватэры...



### Легіянеры XX стагоддзя

Цікавая аб'ява з'явілася ў апошнім нумары маскоўскай "Литературной Росии". Рускі легіён аб'яўляе набор. Як гаворыцца ў аб'яве, перавага пры залічэнні ў легіён аддаецца "людзям, якія маюць цвёрдыя нацыянальныя і дзяржаўныя перакананні, гатовыя ў любы момант выступіць на абарону рускага насельніцтва ад любых форм нацыянальнага і эканамічнага генацыду". Праўда, дзе канкрэтна будуць дзейнічаць новыя легіянеры, не паведамляецца.

### "Тысяча з макам"...

Вось і дачакаліся, як паведамляе "Крым-прэс", у Расіі з'явіліся першыя падробленыя 1000-рублёўкі. Фальшыўкі выраблены даволі дрэнна: на іх нават адсутнічаюць "вадзяныя" выявы правадыра.

Што рабіць нам, жыхарам так званай "рублёвай зоны", – бедаваць ці радавацца таму, што на гэтыя "лімонкі" ўвогуле нехта пакваліўся, пакуль незразумела.



# КАХАННЕ СТАЛІНА?



Аказваецца, было і такое. Успамінае народная артыстка Расіі і Грузіі, былая салістка Вялікага тэатра ў Маскве Вера Аляксандраўна ДАВЫДАВА:

— А было так. Каля службовага ўваходу стаіць машына і выходзіць адтуль жанчына, уся ў чорным, як манашка, худзенькая, высокая. Ваенны, які мяне суправаджаў, адчыняе дзверцы, манашка рукой махае: "Калі ласка, сядайце". А за рулём сядзіць нейкі генерал. Я села. Праязджаем Садовую, а я жыла на вуглу з Трубнай, побач са старым цыркам. Я кажу: "А чаму вы праязджаеце? Вось мой дом..." А генерал: "Мы едзем зараз у госці". У госці запрашалі толькі "зорак" першай велічыні, мяне туды ніколі ніхто не запрашаў. Сярожа Лемешаў, мой сябар, неяк спытаў: "А чаму мы Веру Аляксандраўну не бяром з сабой?" "Не, — гаворац, — яна такая недатыка!.." А між іншым, усе ведалі, што Сталін ніводнага спектакля майго не прапускаў... Нарэшце, прыязджаем на дачу — раскошная! Спыняемся, генерал выскоквае, расчыняе дзверы — і я па лесвіцы падымаюся наверх. Вялізная веранда, люстраное шкло, заліты святлом хол. І стаіць... сам Сталін. Усміхаецца скрозь вусы і гаворыць: "Ну, нарэшце, я дачакаўся гэтай хвіліны". Я кажу: "А дзе ўсе астатнія?" Ён азірнуўся па баках: "Хто астатнія? Вы і я — больш нікога!" А я ад падобных інтрыг зусім была далёкая, жыла толькі мастацтвам і сваёй сям'ёй. Яны былі для мяне святая святых.

Заходзім у залу, пасярэдзіне авальны стол — там садавіна, шакалад, ліманадная вада... Сталін запрасіў мяне прысесці і сам сеў насупраць. Я так расхвалявалася, думаю: "Што такое? Чаму мяне да Сталіна прывезлі?" Думаю, вось зараз скарыстаю выгадны момант. Тут ён у мяне якраз пытае: "Што вы хочаце?" Адказваю: "У мяне ёсць просьба". Ён адразу насцярожыўся. "Я вучаніца Дзевас-Собалевай, яна прафесар кансерваторыі, але не мае ніякага звання". Ён бярэ вялізны аловак — з аднаго боку сіні, з другога чырвоны. Запісаў нешта і паклаў. Думаю, як добра! Ён гаворыць: "Вера Аляксандраўна! А вас не здзіўляе, што кожны раз, калі вы спяваеце Кармэн, Аіду і Амнерыс, я заўсёды прыходжу ў тэатр і сяджу на адным і тым жа крэсле?" "А чаму я павінна здзіўляцца?" Ён: "Дык вось, я павінен вам сказаць, што сяджу і, як хлапчук, раўную. Вас абдымае адзін Хазэ, другі Хазэ... Мне прама на сцэну выскачыць хочацца і даць ім добра!" Я кажу: "Іосіф Вісарыёнавіч! Калі мы абдымаемся, гэта тэхніка сцэнічнага дзеяння!" Ён: "Гэта добра, а то я не на жарт расхваляваўся..." Вось такая размова. І гэта Сталін! Усе гаварылі, што ён страшны, нейкі каравы, рыжы... Не ведаю — нармальны грузін. Спакойна з ім гутару, але хвалююся, канешне. Ён у мяне пытае: "А вам асабіста нічога не патрэбна?" "Не, — кажу, — нічога..." Раптам ён падыходзіць да незгаральнай шафы, бярэ адтуль пачак грошай. "Гэта, — гаворыць, — грошы для вашага сына". Я кажу: "Што?! Вы мяне абражаеце!" А ён бярэ маю сумачку і хоча туды запіхнуць. Я ўсё роўна не ўзяла. Потым ён гаворыць: "Вы ведаеце, які я адзінокі? У мяне, — гаворыць, — адзіная светлая плямка — мая Святланка. Я адзін, а вакол мяне толькі злыя сабакі. Мне вельмі цяжка... Вера Аляксандраўна, будзьце маёй!" "Як гэта вашай?" Ён: "Будзьце маёй законнай жонкай!" Я адказваю: "Іосіф Вісарыёнавіч, вы ж — Сталін! Вы ж — правадыр! Я вам хлусіць не магу. Я люблю аднаго чалавека, толькі аднаго, гэта на ўсё жыццё, Дзмітрыя Мчалаідзэ". Сталін гаворыць: "Ах, які ён шчаслівы! Я меркаваў, што вы такая, як усе, а зараз я пераканаўся, што вы — адзіная на ўсім зямным шары!" Так і сказаў. Я зусім разгубілася, не ведала, што рабіць. Кажу: "Іосіф Вісарыёнавіч, вы — наш бог, вы — бацька наш! Жадаеце — па кроплі кроў за вас аддам, пад танк лягу, але хлусіць вам не магу..." Вось такая была ў нас размова. Я вам больш скажу... Нікому не гаварыла, але вам павінна сказаць тое, што было. Раптам схапіў ён мяне ў абдымку, пасадзіў на калені, прыцісну да сябе і ўпіўся пацалункам. Адкуль і сілы ўзяліся — не ведаю. Але я ўся напружылася, адпіхнула, вырвалася. Ён глыбока задыхаў, расчыніў дзверы на балкон і пайшоў прама ў снег. Я схапіла яго за хлясцік ззаду, цягну назад, крычу: "Што вы робіце? Захварэць хочаце? А потым скажуць, што гэта я вас прастудзіла?" І ледзь не плачу... Ён раптам нечакана гаворыць: "Вы на більярдзе гуляеце?" Я няўпэўнена гавару: "Так-так..." А ён: "У мяне більярд тут наверсе, пойдзем паглядзім, як вы гуляеце..."

Падняліся па вінтавой лесвіцы. Ён узяў у рукі кій, нацёр мелам, выставіў трохвугольнік шароў. "Вам, — гаворыць, — як госцю права першага ўдару". Вы ўяўляеце, што са мной было? Думаю: "Госпадзі! А раптам не патраплю?!" Ён зміласціўся, разбіў піраміду. Адзін шар стаў недалёка ад лузы. Я сабрала ўсе свае сілы і... паклала шар. Ён: "Нядрэнна... Яшчэ, калі ласка!" Другі шар таксама быў недалёка ад лузы. Але я прамазала... Ён азартна ўсклікнуў: "Ну, зараз я!" Стукнуў, але таксама не трапіў, хаця шар быў зусім побач з лузай. Я кажу: "Іосіф Вісарыёнавіч, ледзь-ледзь..." А ён гэтак павучальна: "Ледзь-ледзь шмат што значыць у жыцці..." Я кажу: "Вы ведаеце, ужо позна, я ніколі яшчэ так не вярталася. Уяўляю, што дома робіцца!" Ён: "Не бойцеся, нам усё вядома, там усё добра! Машына ўжо выклікана, зараз вы паедзеце дамоў". Мы спусціліся ў хол, ён падаў мне футра, расхінуў і... разам з футрай мяне да сябе прыцісну. Ды так моцна! І пачаў цалаваць... футравы каўнер.

Калі мяне прывезлі дадому, мой Дзмітрый па пакоі ходзіць туды-сюды. Я яму ўсё расказала. Ён схапіў мяне за руку: "Веруша, давай развітаемся, цяпер цябе абавязкова арыштуюць..." І мы ўвесь час жылі ў пастаянным страху арышту. Я вырашыла, што скончыліся мае выступленні ў Георгіеўскай зале... Але прайшло крыху часу, за мной прыходзіць машына і вязе на чарговы крамлёўскі канцэрт. Думаю, як жа я з ім сустрэнуся?! І калі выйшла на сцэну, ён так дзіка паглядзеў, у мяне аж рукі затрэсліся... Але пасля канцэрта ён, хоць бы што, гаворыць: "Ну, як пажываеце?" Абышлося...

(Паводле часопіса "ЖУРНАЛИСТ")







Музычны выпуск "Нотны аркуш" вядзе журналіст Вітаўт Мартыненка, тэл. 39-87-94.

№15 (205)


*Зоркі на небасхіле*

# ШЧЫРАВАННІ АД ДЖОНА

## 9 верасня спеваку споўнілася б 52 гады



**Пасля артыкула пра Пола Макартні ў "Нотным аркушы" № 10(200) мы атрымалі шмат лістоў ад беларускіх бітламанаў, якія просяць працягваць знаёмства з музыкамі "Бітлз". І вось напрыканцы мінулага года выйшла кніга выбраных інтэрв'ю легендарнага экс-бітла Джона Ленана пад назвай "Джон Ленан: чалавек і музыкант". Мы вырашылі перадрукаваць фрагменты з гэтай кнігі, якія змясціла газета "Гуманітарны фонд" № 32, жнівень, 1991.**

### 1. Я НЕ ВЕРУ Ў "БІТЛЗ"

*Ведаеце, Брайэн апрануў нас у касцюмы і ўсё такое, і мы дасягнулі шмат чаго.* Музыка была мёртвай ужо тады, калі мы адправіліся ў турнэ па канцэртных залах Англіі. Мы адчувалі сябе дрэнна ўжо таму, што нам даводзілася ўрэзваць гадзінныя або паўтарагадзінныя канцэрты, якія ў нас добра ішлі, і гэта паўтаралася кожны вечар.

Тады музыка "Бітлз" памерла. Таму мы ніколі не павышалі свой узровень як музыканты. Замест гэтага мы губілі сябе. Джордж і я больш за ўсіх схільны так гаварыць. Мы заўсёды шкадавалі, што час клубных выступленняў прайшоў, таму што менавіта тады мы ігралі музыку. Пазней мы сталі тэхнічна прадуктыўнымі майстрамі гуказапісу, але гэта было зусім іншае. А паколькі мы ведалі толк у сваёй справе, дык куды б нас ні штурхалі, усюды мы стваралі што-небудзь значнае.

Трэба зусім зневажаць сябе, каб быць тым, чым былі "Бітлз", і гэта мяне абурала. Я не ведаў, не прадбачыў. Гэта адбываецца мала-памалу, паступова, пакуль поўная безразважнасць не ахопіць вас, і вам прыйдзецца займацца тым, чым вы не жадаеце, з людзьмі, якія вам не падабаюцца, з людзьмі, да якіх вы адчувалі нянавісць яшчэ ва ўзросце дзесяці гадоў.

"Love me do", кніга Браўна пра "Бітлз", была лепшай. Гэта праўдзівая кніга. Ён паказаў нас такімі, якімі мы былі, а былі мы падонкамі. Цяжка быць прыстойнымі людзьмі ў такіх умовах, пры такім празмерным ціску. Такія рэчы звычайна замоўчваюцца, і ніхто не ведае, якімі мы былі на самай справе. А мы былі падонкамі, таму што нельга прабіцца да "прыгожага" жыцця, калі не будзеш ім. Як сказана ў Алена (А.Клейн — апошні менеджэр "Бітлз") на каляднай паштоўцы: "Я іду па даліне смерці, але няма боязі ў маім сэрцы і не баюся я зла, бо ў гэтай даліне я самы вялікі падонак!" ...Я кажу сур'ёзна, гэта сапраўды так, калі ты пралез наверх, дамогся пашаны, славы і грошай, ты — падонак.

З'яўляючыся бітлам, я здрадзіў сваім ідэалам і прынцыпам. Я быў падобны на мастака, які зрабіўся рамеснікам... Я дазволіў уцягнуць сябе ў грандыёзны бардак. У мяне былі мільён жанчын, наркотыкі, спіртное, грошы, сіла — усё гэта ў мяне было, і ўсе ўзнагароджвалі мяне сваёй прыхільнасцю. Як мог я вылезці з гэтага бардака? Я заблытаўся ў гэтых сетках... і не мог вырвацца.

Ствараць я таксама не мог. Сёе-тое я ствараў, гэта так, але ўдзельнічаў у гульні, з якой не так лёгка выйсці. Я нарадзіўся ў глухамані, рос у "лесе", я ні аб чым не чуў. Ван Гог быў вышынёй маіх інтэлектуальных ведаў. Нават пра Лондан мы марылі як пра нешта дзіўнае і недасягальнае, а Лондан — гэта так сабе. Я выйшаў са сваёй правінцыі, каб убачыць свет, і мне здавалася, што я яго ўбачыў. Я з асалодай жыў у ім, але гэта была пастка, з якой было цяжка вызваліцца. Я прызвычаіўся да гэтага жыцця, бы той нарказман да свайго наркотыка.

Калі яны (людзі) тады не разумелі "Бітлз" і 60-я гады, то чым, скажыце мне, мы можам дапамагчы ім цяпер? Ці павінны мы зноў дзяліць рыбу і хлеб для натоўпу? Каб нас зноў распялі? Ці павінны мы зноў хадзіць па вадзе з той прычыны, што куча дурняў не бачыла гэты цуд тады, у першы раз, а калі і бачыла, дык не паверыла. Вось гэтага яны і патрабуюць: "Злазце з крыжа. Я не зразумеў першай дзеі. Ці зможаце яшчэ раз паўтарыць?" Не можам. Нельга вярнуцца ў дом — яго больш няма.

### 2. "ТВОРЧАСЦЬ, ЯК ЖЫЦЦЁ"

Калі мы хочам сапраўднага рока, дык трэба адмовіцца ад усякага наноснага хламу і фальшывых вобразаў накшталт гэтай нібыта рэвалюцыйнасці і доўгіх валасоў. Мы павінны пераадолець гэта ў саміх сябе. Вось чаму я падрэзаў свае валасы. Рок-н-рол будзе такім, якім мы яго зробім. Ён першабытны па сваёй прыродзе і ў ім няма нічога штучнага, а таму хлуслівага, ва ўсякім разе, у самых лепшых ягоных узорах. Ён даходлівы дзякуючы свайму рытму. Рок працінае. Гэта было першае, што захапіла мяне цалкам, працяло маю істоту, калі мне было пятнаццаць гадоў. Рок-н-рол непадробны, а ўсё астатняе — фальш. Самая каштоўная якасць рок-н-рола — гэта ягоная сапраўднасць, ягоная шчырасць, а шчырасць даходзіць да нас, хочам мы гэтага ці не. Ён праўдзівы, як і ўсё сапраўднае мастацтва, вы згодны? Калі мастацтва сапраўднае, дык яно звычайнае і простае, а калі простае, тады яно і сапраўднае.

Рок важны і заўсёды будзе важным для людзей. Я мог бы даказаць гэта інтэлектуальна, калі б захацеў далучыцца да гэтай гульні. Блюз, у процівагу джазу, а дакладней сціпламу беламу "буржуазнаму" джазу... блюз лепш... І гэта таму, што ён сапраўдны, не перакручаны і не выдуманы. Гэта не абстракцыя, гэта крэсла. Не эскіз крэсла, не мадэль крэсла, не крэсла, ababітае скурай або з нейкімі там хітрымі ўпрыгожаннямі, а самае першае крэсла. Гэта крэсла для таго, каб на ім сядзець, а не для таго, каб глядзець на яго або любавацца ім. Мы сядзім на гэтай музыцы, як на крэсле.

Я высмейваў такія хрысціянскія догмы, як "каб трапіць у рай, неабходна прайсці скрозь пакуты". У "Girl" я гаварыў пра тое ж — пра боль, які вядзе да асалоды. Гэта канцэпцыя артадаксальнага хрысціянства — прайсці праз пакуты, і тады ўсё будзе найлепшым чынам, што ў нейкай ступені сапраўды так, толькі не ў тым сэнсе, як гэта разумее хрысціянская дактрына. Я ніколі не верыў у неабходнасць імкнуцца да пакут для таго, каб нешта атрымаць, таму што да іх не трэба і імкнуцца — яны самі суправаджаюць нас усё жыццё.

Песню "Imagine" варта было б падпісаць "Ленан/Оно". Шмат што — вершы і ідэя — сыходзілі ад Йока Она, але ў тыя дні я быў больш эгаістычны, больш грубы, чым яна, і як бы не палічыў патрэбным нагадаць пра ейны ўклад, але песня была прама з "Грэйпфрута", ейнае кнігі. Там шмат кавалкаў, дзе сказана "ўявіце тое і тое і ўявіце гэта", і цяпер, з вялікім спазненнем, я аддаў ёй належнае.

Творчасць, як жыццё. Мастак творыць, як дыхае: удых-выдых. Калі ты нічога не ўдыхнуў, дык і выдыхнуць табе няма чаго. Калі ў цябе нічога няма, каб сказаць людзям, і ты сумленны — ты маўчыш, а калі хлуслівы, кідаешся туды-сюды — без сораму і сумлення пачастуеш іх прымітыўнымі падробкамі.

Я быў звязаны рознымі абавязацельствамі і кантрактамі. Колькі гадоў згубіў, а, акрамя гэтага, нічога не ведаў. Не ведаў, што такое свабода. Я знаходзіўся ў клетцы, а мой кантракт быў як бы матэрыяльным вынікам гэтага. Надышоў момант, калі я адчуў, што для мяне больш важна павярнуцца да самога сябе, да жыцця, чым працягваць рок-н-рольнае жыццё, узлятаючы і падаючы разам з капрызамі свайго выканання або думкамі публікі пра цябе. Рок-н-рол быў вясёлай забавай. Я адмовіўся ад звычайнай у нашай справе альтэрнатывы: альбо накіроўвайся ў Лас-Вегас і спявай там у кабарэ свае гіты, альбо — да чарцей на той свет, як гэта зрабіў Элвіс. Я зрабіўся рамеснікам і мог бы заставацца ім. Але быць адным з іх мяне не вабіла. Я згубіў самае важнае для мастака — свабоду творчасці, і атрымалася гэта таму, што дазволіў заняволіць сябе навязаным уяўленням аб тым, якім павінен быць мастак. Многія гінуць з гэтай прычыны — співаюцца, як Дылан Томас, альбо губляюць розум, як Ван Гог, ці то паміраюць ад венерычнай хваробы, як Гоген.

Она (Йока) паказала магчымасць альтэрнатывы.

Было проста цудоўна, як гара з плячэй. Я сядзеў і думаў: "Што ж гэта мне нагадвае? Гэта нагадала мне маё малалецтва". У пятнаццаць гадоў мне не трэба было пісаць песні. Я рабіў гэта, калі хацеў, іграў рок-н-рол. Я не абавязаны быў рабіць гэта, у мяне не было ва ўяўленні нейкіх канонаў, якія б устанавіў сам або якая-небудзь група крытыкаў і г.д.

Я нібыта вярнуўся ў тыя дні, а потым раптам выявіў, што зноў магу з лёгкасцю нешта пісаць, складаць. Самае прыемнае для мяне, не лічачы першага запісу на стужку, гэта — натхненне, сам настрой, таму што, калі нараджаюцца песні, ты не сядзіш за працай, як рамеснік. Я магу тварыць. Патрэбна песня пра бананы для фільма? Калі ласка. Магчыма, гэта мне і не прынясе вялікага задавальнення, але я здольны працаваць і на такім узроўні. Мне падабаецца сам стваральны настрой, калі ты становішся медыюмам. Сядзіш без справы, і раптам сярод ночы або ў зусім не падыходзячы для гэтага час, калі не хочацца працаваць, цябе агортвае натхненне — вось што самае прыемнае.

Так, я валюся на канапу, і тут бачыш і адчуваеш усю рэч, цалкам, са словамі і музыкай, ці можна сказаць, хто стварыў яе? Хто ведае, я проста сяджу, а песня прыходзіць сама. Табой быццам хтосьці кіруе — раптам ты апынуўся каля раяля або з гітарай у руках і запісваеш песню, быццам нехта праспяваў яе табе.

І я абсалютна не нейкі там цудадзейны прынц-містык з рок-н-рольнага царства, які дзеля забавы займаецца дзіўнай музыкай у кампаніі з экзатычнай жанчынай-драконам, як гэта паказвала прэса.

Мы абодва — людзі вельмі ўражлівыя, і гэтыя нападкі нас вельмі кранал. Мы не маглі зразумець, дзеля чаго гэта робіцца. Калі ты закаханы і калі хтосьці пытаецца ў цябе: "Як ты можаш быць з гэтай жанчынай?", ты адказваеш: "Што вы гэтым хочаце сказаць? Чаму вы хочаце кінуць у яе камень або пакараць мяне за тое, што я кахаю яе?" Каханне дапамагло нам перажыць усё гэта, а былі вельмі цяжкія моманты, калі мы былі блізкія да поўнай роспачы. Але мы выжылі, і вось мы тут. Дзякуй, дзякуй, дзякуй табе!

Сэнс існавання музыканта або мастака — гэта поўная свабода.

Нарэшце, я знайшоў самога сябе. Я выявіў, што быў Джонам Ленанам да "Бітлз" і застануся ім пасля. Так таму і быць. Паветра ачысцілася. Ачысціўся і я сам.

### 3. "ДАЙЦЕ МІРУ ШАНЦ"

Добра, рускія зрабілі рэвалюцыю... Паглядзіце, цяпер там прыгнёт, галеча і г.д. Кожны раз, калі адбываецца рэвалюцыя, бярэ верх жорсткасць, насілле. Вы страляеце ў тых, хто не ўзяў верх над вамі і не адабраў у вас уладу. Але і вам давядзецца будаваць разбураныя структуры, а калі вы аднаўляеце іх, вы ствараеце новы істэблішмент і вы вяртаецеся ў той жа мяшок. Не думайце, што шлях чорных адрозніваецца ад шляху яўрэйскага або капіталістычнага. Няма асаблівай розніцы. Гэта ўсё адна і тая ж гульня. Вы разбураеце, будуеце, а потым вам неабходна ўсё гэта захаваць. І тыя, хто захоўвае, звычайна і ўзброены. Мы думаем, што ўсё гэта не так. Жорсткасць спараджае жорсткасць — гэта ўсеагульны закон. Нехта скажа, што сітуацыя мяняецца ў залежнасці ад месца і абставін. Іншы раз жорсткасць лічаць апраўданай, але гэта кампраміс. А я лічу, што з мірам нельга ісці на кампраміс. Калі вы сядзіце на беразе, каля вады, заўсёды знойдуцца людзі, якія скажуць, што тут занадта глыбока, вельмі моцная плынь і зашмат акул. Магчыма, гэта і не разумна, але мы за тое, каб пры навучанні плаваць абавязкова ныраць у гэтую ваду. Гэта адзіны шлях. Істэблішмент любіць правакаваць ваенныя гульні. Яны імкнуцца прымусіць вас думаць, што адзіны шлях — жорсткасць. Пакажыце мне насільніцкую рэвалюцыю, якая прынесла мір і свабоду, вось тады я скажу: "О'кей, ваша праўда". Два мільёны гадоў мы жылі ў жорсткасці. Дык чаму б не паспрабаваць змяніць свет?

Многія з нас шукаюць бацькоў. Мой бацька фізічна не быў са мной. Для большасці людзей бацькі і фізічна, і ментальна (псіхічна) далёкія ад іх, гэта значыць яны заўсёды на службе альбо заняты іншымі справамі. Таму ўсе гэтыя лідэры адыгрываюць ролю бацькоў-замяняльнікаў, няхай гэта палітычныя лідэры або рэлігійныя... Возьмем выбары прэзідэнта. Ты выбіраеш свайго бацьку з пэўнай сабачай зграі бацькоў. Гэты бацька падобны на бацькоў з рэкламных ролікаў. У яго прыгожыя сівыя валасы, здаровыя асляпляльныя зубы. Вось якога бацьку мы выбіраем. Сабачая зграя бацькоў называецца палітычнай арэнай, дае нам прэзідэнта, мы выводзім яго на сцэну, а потым пачынаем на яго раўці, лаяць, і ўсё таму, што татачка, выяўляецца, не можа тварыць цуды. Татка не можа вылечыць нас.

Людзі баяцца невядомага. Страх прымушае іх мітусіцца ў пошуках мары, войнаў, міру, кахання.

# Эля Брэзік




## Голае цела

Музыка Гэнюся ШЭМЕТА
Словы Яўгена ВАПЫ

Франк Лэй так спяваў:
"О, Ізабэль!
Прыхіліў я жалезны крыж
Да грудзей сваіх".
Падышоў да найвышэйшых
З найпрыгажэйшых з усіх дзяўчат
І сказаў: "Ты не кахаеш мяне"
А гэта найвышэйшы ўжо час,
Тады пакажы ты мне (3 разы)
Голае цела, о-оо.
Голае цела, о-оо.
Хоць патанцуем
У найцішэйшых кутках,
Там можа не адкінеш
Маіх пяшчот.
Шапну: "Маеш хвіліну,
Каб пакахаць мяне".
У гэтую хвіліну
Мушу паверыць табе,
Што пакажаш урэшце мне (3 разы)
Голае цела, о-оо.
Голае цела, о-оо.

Беларуская бардаўская песня даўно перарасла межы адной дзяржавы: мы ўсе цудоўна ведаем Данчыка, які нарадзіўся ў Амерыцы, жыве ў Нямеччыне, а спявае па-беларуску; мы чулі пра фестывалі беларускай песні ў Польшчы, Аўстраліі, Вялікабрытаніі.

Час з агульных знаёмстваў шчыльней пераходзіць на асобы. І адна з іх — беларуская бардэса з Польшчы Эля Бэзюк. Яна — студэнтка Варшаўскага універсітэта, родам з Беластоцкага ваяводства. Ейны рэпертуар і складаюць пераважна ўласныя песні на вершы беларускіх паэтаў Беласточчыны: Я. Чыквіна, Я. Вапы, Н. Артымовіч і іншых.

**Фота У. Панады.**



Фотаплакат № 52

*Розгалас*

# “Тры халеры”?

### Адкрыты ліст да карэспандэнта “ЛіМа” У. Панады. Пра рок.

Уладзя, табе аднаму з першых удалося парушыць маўчанне вядучай інтэлектуальнай газеты рэспублікі “Літаратура і мастацтва” наконт чыста нашых, рокерскіх праблем. Твой рэпартаж і фотаздымкі з фэсту музыкі маладой Беларусі “Басовішча” ад 31 ліпеня, прызнаюся, уразіў. Як сваім сталым позіркам на сучасны стан беларускай рок і поп-музыкі, так і... няведаннем таго, што адбывалася з беларускай рок-музыкай напачатку фарміравання ейнае плыні.

Ніколі б не стаў уступаць у нейкую палеміку з іншымі на гэты конт. Напрыклад, з У. Зайчанкам і газетай “7 дней”... Ну, папрацавала ў чалавека падсвядомае, адкінула рэальныя ўспаміны, замяніла іх уяўным фантазмам... Хай сабе.

У выпадку з тваім рэпартажам, Уладзя, усё не так. Гэта я хачу сцвердзіць як яшчэ жывы сведка тых падзей. Вось ты хлёстка заўважаеш: “Далёка засталіся мінскія “Тры колеры” (першы беларускі рок-фэст —А.М.), назву і, адпаведна, змест якога вызначыў сцяг БССР...”

Дробная фраза, у іншым выданні яе і не заўважыў бы. Але ў газеце творчай інтэлігенцыі Беларусі яна набывае іншы сэнс, змушае нагадаць падзеі, свой тагачасны стан, які тады яшчэ быў, у вялікай ступені, пад уплывам плесені бээсэсэраўскай “саўковасці”. Але ці ж выпадкова нешматлікія даследчыкі тых падзей вырашаюць сёння альтэрнатыву: “Каб не было “Трох колераў-86”, ці было б “Басовішча-90, 91, 92”. Бо менавіта з рэпартажу ў “Ніве” аб тых “Трох колерах” пачалося на Беласточчыне зацікаўленне беларускім рокам. А гэта ж быў той самы рэпартаж, які зняла цэнзура з нашых старонак. Ці выпадкова?

Дык вось пра назву “Тры колеры” і пра суадносіны яе са сцягам былой калоніі пад назвай “БССР”. Прапанову гэтак назваць наш першы фэст высунуў адзін з ягоных суарганізатараў Васіль Астроўскі, тагачасны камсамольскі функцыянер.

Высновы былі простыя: на першых беларускіх рок-канцэртах выступяць тры разнапланавыя рок-гурты: “Бонда”, “Магістрат” і “Мінск”, як тры колеры шматколернай палітры музычнага мастацтва Беларусі. Вось і ўся мудрасць. І ніякай палітыкі.

Гэта ўжо трохі пазней, пасля выклікаў на партыйныя “дываны”, пасля “разгонаў” і скандалаў пачалі “Тры колеры” атаясамліваць (што, заўваж, характэрна) з нацыянальным беларускім бел-чырвона-белым “трохпалоснікам”! Бо ўсе тры гурты першых “Трох колераў” неслі нацыянальную ідэю. Шчыра скажу, усе тыя, хто арганізоўваў першыя беларускія рок-імпрэзы, гэтаму не пярэчылі. Гэтага, Уладзя, ты, зразумела, не мог ведаць.

Таму твае ўскосныя намёкі пра нашую спрадвечную “саўковасць”, адсутнасць тагачаснай свядомасці і, як вынік гэтага, крушэнне ўсіх памкненняў нашай маладосці ў выглядзе фэсту “Тры колеры”, мякка кажучы, не адпавядаюць ісціне.

Гэтаму фэсту, як і самому рок-клубу “Няміга”, быў наканаваны такі лёс зусім па іншых прычынах. Пра іх мне даводзілася пісаць у “Нотным аркушы”. Увогуле ж, для таго, каб і надалей пазбегнуць любых безвыніковых спрэчак, крыўд, давай, Уладзя, мінулае варушыць толькі для дасягнення адной мэты — са сваіх і іншых памылак ды поспехаў ствараць платформу для далейшага руху наперад. І ў адносінах да беларускай рок-музыкі таксама.

З павагай
**Анатоль МЯЛЬГУЙ.**

*Гіт-парад*

# БЫЎ КРАМОЛЬНЫ І КРУПНІК

**Як заўсёды, на фінале кожнага месяца ў фанаў беларускай папулярнай музыкі ёсць рэальная гарантаваная магчымасць сустрэцца са сваімі кумірамі, пачуць навіны іхняга жыцця і творчасці. Гэта адбываецца на хвалях радыё “Свабода”. 11-ы выпуск беларускага гіт-парада “ЧЗ-Liberty” выходзіць у эфір 27 верасня.**

Лідэрам стаў, як бачыце на фотаздымку, дзе ён сярод сваіх шматлікіх прыхільнікаў, жывы класік беларускай бардаўскай песні Сяржук Сокалаў-Воюш. Ягоныя песні ўжо траплялі і раней у гарачую беларускую дзесятку (напрыклад, “Крыніцы” ў выкананні Данчыка), але сам Сяржук дабраўся да Алімпа ўпершыню. Зрэшты, гэта не магло не здарыцца: цудоўная паэзія, публіцыстычны запал ягоных песень, трапны гумар і заўсёднае адчуванне сваіх каранёў — найлепшыя праявы жывой творчасці.

Цікавае назіранне: хоць рок лічыцца больш папулярным напрамкам музыкі, у нашай табліцы апошнім часам лідыруюць спрэс барды (В.Цярэшчанка, А. Камоцкі), шмат іх і ў гэтай табліцы (па-за названымі гэта Данчык, Віктар Шалкевіч). Бадай, гэта толькі сведчыць, што бардаўская песня выхоўвае слухача больш актыўнага разумова. У тых, хто слухае бардаў, пастаяннае жаданне не проста пагуляць у гульню “гіт навыперадкі”, а паразважаць, падзяліцца думкамі. Вось што піша з Оршы школьнік Пятрусь Верашчака: “Напачатку верасня я ўпершыню, нарэшце, паслухаў і пабачыў Віктара Шалкевіча жыўём. На касетах асабліва папулярныя ягоныя фрывольныя песенькі накшталт ”Не пі, сынок", “Кароткая гісторыя Беларусі” ды іншыя. А ў жыцці ён аказаўся сапраўдным беларускім інтэлігентам. Паслухайце ягоную “Правінцыю”, і вы адчуеце, як можна любіць Беларусь ад вялікіх сталічных праспектаў да самых глухіх закуткоў".



Зрэшты, не будзем спрачацца за апрыёрнасць выказанай вышэй думкі, што толькі барды ў папулярнай музыцы маюць актыўнага слухача. Нямала ў нашай пошце лістоў і ад інтэлігентных рокераў. Сярод іх — вайсковец з Менску Кастусь Прыселкаў. Ён разважае: “Нядаўна Беларускае тэлебачанне ўпершыню расшчодрылася ды паказала цэлы канцэрт беларускага рок-гурта ”Уліс". Але ці то здымкі былі такія няякасныя, ці то вакаліст новы не ўязджае ў музыку калектыва, але пасля перадачы давялося ўключыць грамафон і паправіць настрой кружэлкай “Чужаніца”, дзе спяваў Андрэй Патрэй, а на бубнах граў Кірыла Шэвандо".

У 11-й табліцы гіт-парада “ЧЗ-Liberty” аказалася нямала навінак. Адна з іх — кампазіцыя “Кайф” з альбома “Дарога ў рай”, які зусім нядаўна запісаў наш стары знаёмы Ален з гуртом “Браткі”. Прыгадваю выступ Алена на фестывалі “Басовішча-92" у Польшчы і думаю: каб ён выконваў менавіта рэпертуар гэтага альбома, дык склаў бы салідную канкурэнцыю нават ”Краме" з “Улісам”, хоць стылістычна іх не варта параўноўваць. Проста вельмі падкупляе гэты сімбіёз дыскатэчнай лёгкасці, саркастычнага гумару, унутранай энергіі. Брава, Наваполацк!

А цяпер — сама табліца № 11.

1. “Крупнік” (муз. і сл. С. Сокалава-Воюша). Сяржук Сокалаў-Воюш.
2. “Харашуха” (беларускі фальклор). Данчык.
3. “Які ж я беларус?” (муз. і сл. З.Сідаровіча). “Грамада”.
4. “У музеі” (П. Піскуноў —М. Скобла). “Тутэйшыя хлопцы”.
5. "Правінцыя" (муз. і сл. В.Шалкевіча). Віктар Шалкевіч.
6. “Гаспадыня ранішняй зоркі”. (муз. і сл. А. Камоцкага). Алесь Камоцкі.
7. “Панарама-30" (А. Аляксандраў—В. Шніп). ”Рэй".
8. “Пляц Францыска” (С. Краўчанка—Ф.Аксёнцаў, С.Краўчанка). “Уліс”.
9. “Кайф” (муз. і сл. С. Хамякова). “Ален”.
10. “Маўклівы герой” (І. Варашкевіч—З.Лукашук). “Рокіс”.

Для тых, хто хоча прыняць удзел у складанні 12-й табліцы, паведамляем, што для гэтага трэба даслаць спіс трох сваіх улюбёнцаў не пазней 20 кастрычніка на адрас або “Чырвонай змены” (Менск, пр. Францішка Скарыны, 77), або Radio “Liberty” (postfach 221425, D-8000, Muenchen, Germany).

Вінцук ГУНЕНКА.
Фота У.ПАНАДЫ.



*Фанатэка*



## Лявон БАРТКЕВІЧ “СПЯВАЙ МНЕ, ДЗЯЎЧЫНКА”
### Электранова продакшнз, 1989

Для ўсіх прыхільнікаў беларускай песні не толькі на радзіме, але і далёка за ейнымі межамі не трэба адкрываць імя гэтага спевака. Яго выдатна ўсе ведаюць і з “песняроўскага” перыяду творчасці, і з сольнага. А чытачы “Чырвонай змены” знаёмыя і з дыскаграфіяй Лявона Барткевіча: мы рэцэнзавалі і сумесны ягоны альбом з Данчыкам “Мы адной табе належым”, згадвалі неаднойчы і пра гэтую сольную кружэлку. Але зараз ёсць магчымасць прааналізаваць яе больш падрабязна, бо атрымалі з Амерыкі партыю новых беларускіх выданняў.

Гэты альбом, хоць і выйшаў у 1989 годзе ў ЗША, аднак, запісваўся значна раней у Менску. Проста на радзіме цяжка знайсці выдаўца. Многія песні паспелі атрымаць шырокую вядомасць праз эфір Беларускага радыё. Напрыклад, “Ягада каліна” Алега Чыркуна на вершы Ніла Гілевіча, “Час вечаровы” Генрыха Вагнера, “Не судзіла ты мне, доля” Рыгора Пукста на вершы Янкі Купалы.

Прыгожую песню на вершы нашага класіка Міхася Чарота, якая і дала назву альбому – “Спявай мне, дзяўчынка” – напісаў кампазітар сярэдняга пакалення Уладзімір Буднік.

Ёсць у праграме яшчэ адзін твор Алега Чыркуна “Сняжынка”, напісаны на тэкст паэта-песенніка Уладзіміра Карызны. Дзве песні для гэтага альбома напісаў Лявону Барткевічу таксама і Эдуард Зарыцкі: “Сцежка юнацтва” на словы Генадзя Пашкова і “Зорачка” на словы Ніла Гілевіча.

Выконвае Барткевіч тут і пяць народных песень: “Ой, зелена, зелена”, “А за лесам”, “Двору мой”, “Тры крынічанькі”, “На моры дзяўчына”.

Выданне фірмы “Electronova productions” вызначаецца цудоўнай тэхналагічнай якасцю, мае прывабную каляровую вокладку. Прычым фірма знаходзіцца ў ЗША, а вокладку друкавалі ў Канадзе. На жаль, тыраж выдання не прызначаны для распаўсюджвання на радзіме выканаўцы, таму ўсе надпісы зроблены беларускай лацінкай і маюць пераклады на мову ангельскую.

Ёсць на вокладцы і кароткая інфармацыя пра спевака, пададзеная выключна па-ангельску: “Лявон Барткевіч, заслужаны артыст Беларусі, саліст радыё і тэлебачання, спявае тут дванаццаць беларускіх песень. У родным Менску, у Беларусі, Лявон жыве са сваёй жонкай, сусветна вядомай гімнасткай Вольгай Корбут і юным кінаакцёрам сынам Рычардам (яму 10 гадоў)”.



## “ТОЛКІНГ ГЭДЗ” “МАЛЕНЬКІЯ ІСТОТЫ”
### EMI, 1985

Калі вы прыгадаеце артыкул Уладзіслава Ахроменкі “Адрыян Бялю і шчаслівыя здарэнні”, які мы публікавалі ў верасні мінулага года, дык назва амерыканскага гурта “Толкінг Гэдз” не падасца вам незнаёмай. Адрыян Бялю распавядае там: “Каля антыкварнай крамы раптоўна да мяне падвалілі два бамбізы: "Гэй, што ты тут сноўдаеш са сваім чортавым магнітафонам? Ты што – паліцэйскі агент?"... Урэшце рэшт, калі я паказаў ім сваю кашулю з надпісам “Толкінг Гэдз”, дык адразу пераканаў, што я толькі музыкант.”

Адрыян Бялю меў свой калектыў, але цесна супрацоўнічаў і з “Толкінг Гэдз”, і з Фрэнкам Запам, і з Дэйвідам Боў.

Праўда, многія кружэлкі “Толкінг Гэдз”, у тым ліку і анатуемая (дарэчы, апошняя перад распадам) “Маленькія істоты”, запісаныя без Адрыяна Бялю. За бубнамі ў гэты час сядзеў Крыс Франц, а на іншых інструментах гралі Джэры Гарысан (клавішныя, гітара), Тына Вэймут (бас-гітара), Дэйвід Байэрн (гітара, вакал) і шэраг запрошаных музыкаў. Але нельга сказаць, што вартасць творчасці ансамбля зменшалася ад адсутнасці зоркі. Яны і самі былі зоркамі: калі сусветна вядомага музыканта гурта “Бумтаўн рэтс” Боба Гелдафа, ініцыятара шэрагу дабрачынных рок-сэйшнаў накшталт “Live Aid” на карысць Эфіопіі, пытаюць пра ягоных улюбёных выканаўцаў, ён называе перш за ўсё “Толкінг Гэдз” і “Біч бойз”.

У якім жа напрамку працуе “Толкінг Гэдз”? Калі яшчэ справядлівая мудрасць “Скажы мне, хто твой сябар, і я скажу, хто ты”, дык імёны Дэйвіда Боў, “Бумтаўн рэтс”, Фрэнка Запы падказваюць нам, што стылістычнае азначэнне тут трэба шукаць на стыку авангарда і новай хвалі. А гэта, між іншым, так і ёсць. І калі першая палова анатуемага альбома, паводле выяўленчых сродкаў, бліжэй да поп-музыкі, да эстрады, дык другая выразна канцэнтруе ўнутраную энергію і інтэлектуальны зачын, характэрныя для рок-музыкі.

Амаль усе кампазіцыі і тэксты да іх стварыў Дэйвід Байэрн ("І яна была", “Закаханыя істоты”, “Позняя адсутнасць”, “Шпацыр па ўзгорках”, “Тэлечалавек”, “Дарога ў нікуды”). Тэкст песні “Цудоўны свет” ён пісаў разам з Крысам Францам, а музыку да “Кабеты без жаданняў” і “Дазволь мне вярнуць сваё імя” дапамагалі пісаць усе астатнія музыкі гурта.

Дыск запісаны ў нью-йоркскай студыі “Сыгма-саўнд”. Мастацкая аздоба Говарда Фінстэра. Фотаілюстрацыя на зваротнай бачыне Ніла Селькірка.



## “ПОЛІС” “СІНХРОННАСЦЬ”
### Эй энд Эм, 1983

Творчасць брытанскага трыо “Поліс”, сольныя дыскі ягонага вакаліста Стынга ўжо даўно знаходзяцца пад пільнай увагай “Нотнага аркуша”. І хоць гурта ўжо сем гадоў не існуе, ягоная музыка працягвае хваляваць сэрцы сапраўдных меламанаў. Сёння перад намі апошні альбом калектыву.

“Поліс” – гэта Гордан Самэр, Сцюарт Коўплэнд і Эндзі Самэрс. Мабыць, каб Самэра не блыталі з Самэрсам, першы з іх і ўзяў сабе псеўданім Стынг.

Акурат Стынг і Сцюарт Коўплэнд з'яўляліся найбольш актыўнымі ўдзельнікамі калектыву. У анатуемым альбоме большасць песень (словы і музыка) належаць Стынгу: “Сінхроннасць” (1 і 2 часткі), “Блуканне па тваіх кроках”, “О мой Бог”, “Ты адбіраеш усё дыханне”, “Кароль пакуты”, “Згарнуўшыся вакол твайго пальца”, “Гарбата ў Сахары”.

Сцюарт Коўплэнд напісаў словы і музыку песні “Міс Градэнка”, а Эндзі Самэрсу належыць кампазіцыя “Маці”.

Стынг (Гордан Мэс'ю Самэр) нарадзіўся 2 кастрычніка 1953 года ў Валсэндзе-на-Тайне (Вялікабрытанія), а Сцюарт Коўплэнд – 16 ліпеня 1952 года ў Александрыі (ЗША). Менавіта Коўплэнд выцягнуў таленавітага спевака ў Лондан, дзе пазнаёміў з гуртам... “Поліс”, які спачатку быў проста акампаніятарам другарадным салістам. Запісаўшы разам уласны альбом, яны дасягнулі поспеху і рушылі на радзіму Коўплэнда – у ЗША. Там выходзіць другі альбом пад назвай “Зэньята Мандата”.

Пад час працы над наступнай кружэлкай “Дух у машыне” Стынг, вакаліст, клавішнік і гітарыст, асвоіў яшчэ і саксафон. Акурат пасля чацвёртага альбома “Сінхроннасць” Стынг без залішняй сціпласці заявіў: “Маю, відаць, надзвычайныя прыродныя здольнасці, бо няма для мяне прыкметнай розніцы, на якім інструменце граць. Дый кампазіцыя таксама ідзе вельмі спора. Накрыклад, "Ты адбіраеш усё дыханне" паўстала ледзьве не сама сабой”.

Музычная прэса не звяртае ўвагі на легкаважнасць падобных выказванняў і ацэньвае даробак гурта больш сур'ёзна: “Ансамбль "Поліс", безумоўна, належыць да выдатных постацяў брытанскай рок-сцэны, з'яўляецца прыкметнай старонкай у гісторыі сусветнага рока”.

Варта адзначыць, што калектыў ніколі не кідаўся ў крайнасці: не ствараў “надзённых” палітагітак, не апускаўся да лёгкіх песень аднадзёнак. Ягоныя песні – гэта праўдзівы духоўны свет сучасніка.

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

(Працяг, пачатак у №№ 34-38 )

— Хочаце забіць Папу?! — спытаў з жахам.

— Гэта не МЫ хочам забіць Папу, гэта Вы хочаце зрабіць гэта. Мы толькі згаджаемся, — холадна адказаў Яўленка.

— Не!— Краеўскі імгненна зразумеў, куды ён можа быць ублытаны.— Гэтага не зрабіць!

— Чаму не?— усміхнуўся генерал.— А я ў вас веру. Бо ж аперацыю "Попел" вы спланавалі выдатна. Гавару, зразумела, пра абедзве еййныя фазы,— дадаў ён абыякава.

Краеўскі пачуў, як раптоўна сціснула ў грудзях, разгублена спрабаваў сабраць думкі. Не, пра гэта не могуць ведаць. Найбольш могуць здагадвацца, але нічога дакладна. Ягоныя людзі з Першага Дэпартамента заўжды засцерагаліся занадта блізкага супрацоўніцтва з мясцовай рэзідэнтурай КДБ і ў любым выпадку ніколі не ўводзілі іх у падрабязнасці аперацыйных камбінацый. Паведамлялі толькі пра вынікі выкананых заданняў. Гэта блеф — супакойваўся ён паволі. Следства ў справе аварыі, у якой загінулі два функцыянеры службы бяспекі, пракуратура спыніла. Не засталося ніякіх слядоў для гэтых. Пакунак знік так, быццам яго і не было. Можа, яшчэ да таго, як на месца здарэння прыехала міліцыя. Яго забраў з разбітай машыны нейкі выпадковы шафёр, а можа яго там сапраўды не было? Ніхто ніколі пра гэта не даведаецца. Калі нават недзе яшчэ засталіся нейкія паперы, якія датычаць аперацыі "Попел", дык што з таго,— разважаў ён,— яна папросту не адбылася "з прычыны страты аперацыйных магчымасцей у Галандыі".

— Дыяменты з Амстэрдама...— Яўленка глядзеў на яго з усмешкай, ад якой рабілася холадна.— Каштоўны пакунак з ПАР, таямнічае знікненне якога нарабіла 12 гадоў таму шмат клопату галандскай паліцыі і амерыканскім страхавым кампаніям. Цікава, што зрабілі б сёння, калі б мелі доказы таго, што большая частка скрадзеных камянёў была куплена за трыццаць працэнтаў іхняга кошту супрацоўнікамі польскай разведкі з крымінальным мінулым, а пазней перакінута ў Польшчу?

— Блефуе, раскрыццё гэтага не мае сэнсу,— супакоіў сябе Краеўскі. У той час (12 гадоў таму) ён быў дырэктарам Першага Дэпартамента. Іх стары агент "Кастор" заявіў аб жаданні вяртання ў Польшчу (не сумняваліся, што гэты напалбу патрыятычных пачуццяў звязаны з ажыўленай дзейнасцю тамтэйшай паліцыі) і прапанаваў за дапамогу ў транспартаванні ў Польшчу крадзеных шляхетных камянёў падзяліцца імі са службай — напалам. Яны звязаліся з калегамі з ГДРаўскай "Штазі", якія ахвотна аказалі гэту невялікую паслугу і патэлефанавалі ўсюды польскіх памежных службаў. Прынялі прапанову "Кастора" з умовай абавязковага захавання таямніцы сувязі службы з гэтай справай. Сваю частку дыяментаў яны збіраліся пазней прадаць афіцыйна праз дзяржаўны гандаль, а атрыманымі сродкамі падтрымаць аперацыйны фонд. Так рабілася часта, а ад часу тайнай пастановы Палітбюро, якая дазволіла разведцы і контрразведцы "правядзенне аперацый з маёмасцю з мэтай фінансавання ўласнай дзейнасці," нават легальна.

Падзел лупу адбыўся ў нанятай вілле пад Сьвецкам, адразу пасля пераходу "Касторам" мяжы. Яго чакалі два афіцэры з Трэцяга Аддзела. Якія ад пачатку назіралі за ходам аперацыі. Краеўскі нечакана вырашыў таксама паехаць у Сьвецк. Часам любіў нябачна кантраляваць падуладных яму, каб потым, пад час вывучэння рапартаў, рабіць заўвагі, якія б сведчылі пра веданне ўсіх падрабязнасцей справы. Ехаў услед за машынай афіцэраў, якія вярталіся ў Варшаву з каштоўным пакункам.

Сапраўды, нічым не мог ім дапамагчы. Калі ён наблізіўся да разбітай машыны, людзі былі ўжо мёртвыя. "Дыпламат" з пакункам ляжаў паміж сядзеннямі. Найперш падумаў, што тыя, з дарожнай службы паліцыі, не павінны знайсці яго пад час агляду месца здарэння. Пазней, пад самай Варшавай, усвядоміў, што толькі ён ведае гэтую таямніцу.

На наступны дзень выглядаў шакіраваным, калі атрымаў інфармацыю аб трагічнай смерці двух супрацоўнікаў пад час выканання службовых абавязкаў. Загадаў як мага больш дакладна расказаць пра акалічнасці здарэння. Дакументы аперацыі "Попел", пасля закрыцця справы, зніклі ў сківіцах архіва.

— Можа памятаеце таго маладога чалавека, якому было загадана перад мікрафільмаваннем і перадачай у архіў упарадкаваць частку архіўных пакетаў, якія змяшчалі інфармацыю з асобых крыніц?— спытаў Яўленка, нібыта прачытаўшы думкі Краеўскага.— Не, скуль жа вы сталі б яго запамінаць. Загадалі яму таксама, каб пад час апрацоўкі дакументаў агента "Кастора", калі натрапіць на нейкія дакументы з кодам "Попел", дык мае іх адкласці і перадаць дырэктару, бо кіраўніцтва мела намер асабіста прааналізаваць матэрыялы гэтай справы. Як думаеце, што было б, калі б гэты малады чалавек да перадачы знойдзеных для вас дакументаў літаральна на некалькі хвілін выйшаў у суседні кабінет?




Краеўскі ўважліва паглядзеў на яго:

— З аб'ектыўных прычын здараюцца аператыўныя няўдачы і не трэба рабіць з гэтага занадта паспешлівых высноў,— спакойна сказаў ён.

— Асабліва, калі "аб'ектыўныя прычыны" гінуць у аварыі на пазнаньскай шашы,— Яўленка старанна скіраваў апошні ўдар.— А былы кіраўнік Трэцяга Аддзела, які ведаў, куды паехаў ягоны дырэктар у тую ноч, дагэтуль п'е кактэлі на чарговых прыёмах у чарговым пасольстве.

Краеўскаму заняло дых.

— Калі б у дадатак адзін былы супрацоўнік польскай разведкі нечакана ўзгадаў, што быў пакрыўджаны пад час падзелу каштоўнасцяў, якія ўсё ж атрымалі ў Польшчы, і вырашыў распавесці ўсю гэтую гісторыю пану міністру Кішчаку...— Яўленка прыцішыў голас,— уяўляю, з якім задавальненнем Кішчак склікаў спецыяльную камісію з мэтай усебаковага разгляду справы "Косці"... '

— Вернемся да нашай размовы,— перарваў яго Краеўскі. Умеў прайграваць.— Што прапануеце?

— Ведаў, што не згодзішся,— сцвердзіў рэзідэнт, і Краеўскі не пачуў у ягоным голасе задавальнення і трыумфу.

...Сеў у чакаўшы яго на блізкім паркінгу ўрадавы "Пежо". Шафёр, які драмаў у цяпле салона, абудзіўся ад гуку адчыненых дзвярэй.

— Спадабаўся нядзельны шпацыр, таварыш сакратар? Надвор'е, бадай, палепшала,— ці то запытаў, ці то сцвердзіў ён, уключыўшы рухавік.— Дадому?

— Што-што?— запытаў выхаплены з глыбокага роздуму Краеўскі.

— Я казаў, добрае надвор'е ў гэтую нядзелю. Едзем дадому?

— А... так, так, — адказаў ён суха, адкінуўшы магчымасць працягу размовы.

Маўчаў усю дарогу да Варшавы. Яшчэ раз, слова за словам аналізаваў нядаўнюю размову з рэзідэнтам КДБ. "Атрымаеш усё, у чым будзе патрэба: грошы, тэхніку, дакументы. Усё, акрамя людзей. Ніхто не можа кінуць на нас нават цень падазрэння. Гэта мусіць быць чыста польская работа. Зразумеў, Косця?"— у вушах гучалі гэтыя словы Яўленкі. Курвін сын, падумаў ён з нечаканай злосцю. З моманту атрымання згоды пачаў звяртацца да яго на "ты".

Забіць Папу ў Польшчы... Хто, да д'ябла, падказаў Андропаву гэтае ідыёцкае рашэнне? Абяшкодзіць, аслабіць — гэта так, але каб адразу мокрая работа? У дадатак гэта ён, сакратар, мае тым кіраваць, рызыкуючы галавой. "Зразумеў, Косця?" Маюць зачэпку. І нават не адзіную. Стары, правераны метад: кій і пернік, крымінал або фатэль Першага. "Зразумеў, Косця?" Халерныя курвіны дзеці. Фармальна ж не маюць права вярбоўкі супрацоўнікаў сярод польскіх грамадзян... Пра сябе лічыў, пра колькіх дырэктараў дэпартаментаў у аддзеле казалі амаль афіцыйна, што тыя — супрацоўнікі КДБ. А акрамя іх? З нечакана абуджаным падазронасцю зірнуў на плечы шафёра.

Колькі помніў, прадстаўнікі КДБ надзаравалі іхні аддзел, яшчэ ў 1956 годзе казалі, што ніводнае рашэнне ніводнага з дырэктараў дэпартамента не здзейснена без зацверджання ягоным "дарадцам". Толькі з 1956 году яўны кантроль афіцыйна быў заменены двухбаковым пагадненнем аб абмене групамі афіцэраў. На падставах узаемнасці,— скрывіўся пры гэтым слове "падставаў узаемнасці". Група КДБ у Варшаве сёння налічвала не менш як 30 асобаў. Польская група ў Маскве — "Вісла" — менш чым дзесяць. Афіцэры КДБ мелі вольны доступ у МУС, свабодна хадзілі дзе хацелі і куды хацелі, мелі доступ ва ўсе архівы, атрымлівалі стэнаграмы падслуху важнейшых аб'ектаў, мелі права на атрыманне штодзённых рапартаў ад усіх сувязных, у іх распараджэнні былі машыны і шафёры МУС. Афіцэры "Віслы" ў Маскве атрымалі два пакойчыкі ў раённай камендатуры і не мелі такіх прывілеяў увогуле, амаль ніякіх. Мусілі прасіць дазволу нават на ўваход у гмахі КДБ.

"Зразумеў, Косця?" Успамін пра начальніцкі тон Яўленкі дакучаў, як хворы зуб. Ён не трываў усіх гэтых упэўненых у сабе, недасягальных, нахабных КДБоўцаў, якія яўна дэманстравалі ў кабінетах МУС сваю ўладу. "Зрабі гэта, Косця". Хай яго халера... Як? З-кім?

*Панядзелак, 20 снежня, ранак.*
*Варшава,*
*гмах ЦК ПАРП.*

Гмах на рагу Новага Света і Ерусалімскіх Алеяў заўжды дзейнічаў яму на нервы. Адчуваў тут сябе не на месцы. Што гэта за нагляд, які залежыць ад рашэння іншых асоб? Краеўскі не выносіў бесцырымоннасці і быў перакананы, што пачынае страчваць кантроль над аддзелам. На Ракавецкай было значна прасцей. Без усялякіх пасрэднікаў ён кіраваў цэлым апаратам. Ад самага ўваходу ў будынак адчуваў сябе, як дома. Сёння яму бракавала штодзённага вітання і тупату ботаў вартаваўшых уваход міліцыянтаў. Зацішнага двара і адданых поглядаў працаўнікоў міністэрства. Канешне, ведаў, што гэтая адданасць будзе дэманстраваная і новаму шэфу, але яна была прыемнай яму.

Хвіліну спакою за ранішняй гарбатай у абсталёўленым без густу велізарным кабінеце сакратара ЦК перарваў ціхі гук сігналу. Націснуў клавіш і шэптам вылаяўся: зноў націснуў два гузікі адначасова. Зіхаценне агеньчыкаў і піск сігналу, азначаўшага чарговае блакіраванне тэлефоннай лініі, канчаткова вывелі яго з раўнавагі. Гэтыя прылады не былі прыстасаваныя да ягоных спрацаваных пальцаў. Нават у гэтым на Ракавецкай было прасцей. Тамтэйшыя пульты, зробленыя па спецыяльным замаўленні кіраўніцтва міністэрствам сувязі, улічвалі нават такія дэталі, як сілу націску пальца карыстальніка.

— Уваходзьце!— раздражнёна крыкнуў ён, убачыўшы прыадчыненыя дзверы.

Сакратарка з прыгожым, хаця трохі бледным тварам стала ля парога і, чакаючы ягонай рэакцыі, паспешліва сказала:

— Я ўжо прасіла, каб адрамантавалі, заўтра будзе гатова, таварыш сакратар, і, нясмела ўсміхнуўшыся, дадала:—Таварыш Хлодзік з МУС ужо чакае.

Краеўскі, пачуўшы гэтае прозвішча, супакоіўся. Ад часу тэлефоннай размовы з Хлодзікам мінула два дні. Што праўда, Ежы Хлодзік быў супрацоўнікам Цэнтра, але Краеўскі аддаваў яму загады, як і раней. Сустрэча з адданым чалавекам адразу паправіла яму настрой.

— Хай увойдзе!— буркнуў ён, але ў голасе з'явіліся больш людскія ноты. Нарэшце змажа прыняць нейкае рашэнне.

Рэферэнт Хлодзік сагнуўся ў нізкім паклоне і з загадкавым тварам перадаў сакратарцы некалькі зялёных, сярэдняй таўшчыні тэчак. Выкананне гэтай складанай задачы суправаджалася паляпваннем, а ў момант, калі ён клаў тэчкі, рэферэнт — капітан Службы Бяспекі Ежы Хлодзік нягучна прагаварыў:

— Не ведаю, ці хопіць вам гэтага. Стараўся ўлічыць усе крытэрыі, але калі атрымалася замала, дык...

Сакратар Краеўскі з выразнай нецярплівасцю рухам рукі загадаў яму выйсці. Ніколі не любіў Хлодзіка. Асабліва нерваваў ягоны заўсёды спакойны выраз твару, парасячыя вочкі і гэты выгляд заўсёднай гатоўнасці прыслужвацца. Разам з тым разумеў, што Хлодзік вельмі прыдатны. Не было загаду, якога б той не выканаў і не было чалавека, якому б ён не быў гатовы здрадзіць. Адным словам, сапраўдны кадравы скарб, а кадравая палітыка — галоўная зброя кіраўніцтва. З гэтай прычыны Краеўскі яшчэ з часоў працы на Ракавецкай адразу звярнуў увагу на Хлодзіка. Дбаў аб ягонай кар'еры і ведаў, што пакуль працуе там, дзе працуе, будзе мець таго за свайго чалавека. Часамі, аднак, на яго находзіў неспакой: што, калі гэтай свінні прыйдзе ў галаву... Але стараўся хутчэй адкінуць такія думкі, як няслушныя, урэшце гэта толькі рэферэнт.

(Працяг будзе).

Пераклад з польскай
У. Панады

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

*Навіны для дваіх*

## ФОРМУЛА КАХАННЯ

Як паведамляе часопіс "Кур'ер польскі", вучоныя адкрылі гармон шчасця – аксітацын, які выдзяляецца арганізмам чалавека ў той час, калі ён перажывае пачуццё кахання і іншыя пяшчотныя эмоцыі. Амерыканскія даследчыкі высветлілі, што гэты гармон павышае супраціўляльнасць арганізма розным хваробам і працягвае жыццё. Такім чынам, у тым выпадку, калі з'явіцца магчымасць атрымліваць гармон штучна, славутая формула кахання, нарэшце, будзе вынайдзена.

*Іх норавы*

## А СУДДЗІ – ХТО?

Той-сёй у нас да гэтага часу лічыць, што згвалтаваная жанчына "сама вінаватая, справакавала". І ад забабонаў гэтых ніяк не пазбавіцца. Што, зразумела, яшчэ больш перашкаджае жанчынам звяртацца ў суд. Ці варта ім увогуле рэкамендаваць у любым выпадку заяўляць пра згвалтаванне?

"Абавязкова!" – лічыць Барбара Крэбс, намеснік начальніка паліцыі Кёльна. – Згвалтаванне – гэта не проста "недаравальны ўчынак", гэта – злачынства накшталт замаху на забойства. Жанчына нічога не выйграе, калі маўкліва пакутуе ад свайго прыніжэння. Заява ў паліцыю – адзіная легальная форма супрацьдзеяння".

Легальная дык легальная, але менавіта яна становіцца для большасці жанчын у гэтым становішчы справай непасільнай. Чаму? Мюнхенская "Цэнтральная станцыя экстраннай дапамогі згвалтаваным жанчынам і дзяўчынам" дала адказ. У пракаменціраваным зборніку матэрыялаў "Працэс па справе аб згвалтаванні" яна прааналізавала пратаколы 46-і судовых разбірацельстваў. На 274 старонках кнігі прыводзяцца падрабязныя вытрымкі з выступленняў пракурораў і адвакатаў, выказванні экспертаў, абвінавачваемых і сведкаў. На падставе гэтых матэрыялаў ускрываецца прадузятасць і неаб'ектыўнасць судоў, якія складаюцца ў асноўным з мужчын. Аказваецца, што вядомыя забабоны наконт віны самой жанчыны пануюць і ў органах праваахoвы. "Я перанесла працэс як другое згвалтаванне", – сказала складальнікам зборніка адна з ахвяр мужчынскага гіперсексуалізму.

**Па матэрыялах друку.**






Хто можа зразумець загадкавую жаночую натуру? Толькі мужчына. Прычым, вопытны... Але ці надоўга хапае яму гэтага разумення? "Няроўны шлюб" у нас – з'ява даволі рэдкая, але калі сям'я будуецца на сапраўдных пачуццях, нічога агіднага ці непрыстойнага ў тым няма. Іншая справа, калі, падпарадкоўваючыся толькі імпульсам і інстынктам, мы звязваем свой лёс з абсалютна чужым і далёкім ад нашых сапраўдных патрэб чалавекам...

Калі на горад апускаецца змрок, калі ў вокнах запальваюцца агні, калі апошнія прахожыя, нагружаныя авоськамі, нецярпліва выскокваюць з трамваяў і спяшаюцца да наседжаных месцаў, Ліля цяплей ухутвае сонную Алёнку і, моцна прыціскаючы да сябе каштоўную ношу, асцярожна сыходзіць на першы паверх. Лесвіца стромкая і да таго ж дрэнна асветленая... Унізе Лілю чакае выратавальная каляска, куды яна пакладзе дачку і выйдзе насустрач пранізліваму ветру ці халоднаму дажджу, ці мокраму снегу, ці чаму-небудзь іншаму, абы не заставацца адной у абрыдлай кватэры, у чатырох сценах. У калясцы, акрамя Алёны, закручаная ў шарсцяную хустку малочная бутэлька, змена цёплых паўзункоў, сумка для прадуктаў і томік любімага Булгакава.

Рэдкія прахожыя — усе без выключэння — здзіўлена глядзяць ёй услед. Ліля нетаропка крочыць па знаёмай да дробязей вуліцы, штурхаючы перад сабой каляску, уткнуўшыся ў кнігу, не заўважаючы нічога і нікога, зрэдку толькі прыслухоўваючыся да ціхага сапення, што даносіцца з калясачных нетраў... На гарадской вуліцы поўна ліхтароў, і дзякуй Богу, таму што можна чытаць, а дома яна проста звар'яцела б... Акуляры з'ехалі на кончык носа, шалік размотаўся, валасы выбіліся з-пад шапачкі і растрапаліся... Акрамя Алёнкі і Булгакава, яе не цікавіць нічога. Знешнее дабраўпарадкаванне свету падманлівае. Людзі, што спяшаюцца ў свае кватэры, нешчаслівыя ў падаўляючай большасці...

Лілі — дваццаць шэсць. Але... "Мне здаецца, што па нейкай іроніі лёсу лічбы ў маім узросце пераблыталіся, памяняліся месцамі... Бывае, у семдзесят адчуваюць сябе маладымі. А я ў дваццаць шэсць — старая". І змрочна дадае: "З кім павядзешся...".

Некалі — невыпраўная аптымістка, завадатар, цэнтр любой кампаніі... Цудоўнае пачуццё гумару, нежаночыя розум і логіка, зайздросная вынаходлівасць і здольнасць да ўсіх без выключэння навук. І ў той жа час — чароўны голас, таямнічая ўсмешка, залёныя вочы на паўтвару... Карацей, мужчыны падалі. "Цотныя — направа, няцотныя — налева", — жартавалі сяброўкі. Абажалі яе ўсе. І любілі. І багатварылі. "И грудь, и тело, и душа — со всех сторон ты хороша", — гэта сяброўская эпіграма была надрукавана моцнай паловай курса пад Ліліным фотаздымкам у віншавальнай сценгазеце з нагоды Міжнароднага жаночага дня.

А ёй заўсёды падабаліся больш старэйшыя хлопцы. У адрозненне ад сваіх "зялёных" аднакурсніц яна і тут была першай. У сумачцы сярод падручнікаў, томікаў з вершамі і ўсялякай касметычнай драбязы заўсёды ляжаў прыгожы пачак з імпартнымі прэзерватывамі. На ўсялякі выпадак. Выпадкаў было даволі шмат. Замуж Ліля не спяшалася. Уважліва перабіраючы шчыльныя шарэнгі сваіх паклоннікаў, не магла спыніцца ні на адным. І ўсё марыла. І чытала вершы дапазна, зачыніўшыся ў пустой "чытальцы" студэнцкага інтэрната. А недзе над галавой грымела развясёлая дыскатэка, і марнелі ад суму шматлікія ўздыхацелі... "Хто?" — гэта пытанне і пасля размеркавання заставалася нявырашаным. "Дзіўныя людзі, — гэта яна пра сяброў, — яны думалі, я чакаю прынца. А мне проста хацелася каго-небудзь пакахаць. Каб усё было прыгожа, як у гэтых кніжках...".

Хто можа зразумець загадкавую жаночую душу? Толькі мужчына. Прычым, вопытны. Душа Лілі па-ранейшаму заставалася занадта загадкавай і недаступнай для юнакоў, не вельмі дасведчаных у пытаннях кахання.

Саша быў старэйшы за яе на цэлае жыццё. Яе жыццё. Ён паспеў пражыць два такіх жыцці і ведаў, што трэба рабіць, каб падабацца жанчынам. Тым больш — у яго мелася ўтульная двухпакаёвая кватэра.

Саша, ці Аляксандр Барысавіч (што больш адпавядае рэчаіснасці) працаваў трэнерам па плаванню. Лілю плаванне ніколі не цікавіла, але заўважыўшы аднойчы, што яе "мілая паўната" пачынае прагрэсіраваць, яна запісалася ў секцыю.

..."Чем меньше женщину мы любим, тем легче нравимся мы ей", — сказаў у пачатку мінулага стагоддзя класік. Менавіта па гэтаму прынцыпу развіваліся спачатку адносіны Лілі з першым у яе жыцці "сапраўдным мужчынам". Потым яны развіліся настолькі, што аднойчы Ліля склала ў дарожную сумку свае кофтачкі і джынсы і пераехала з інтэрната ў добравядомую двухпакаёвую кватэру, пакінуўшы сваім суседкам на памяць аб сабе толькі пару яркіх упаковачак з замежнымі надпісамі (за непатрэбнасцю).

Пачалося сямейнае жыццё. Неафіцыйнае, канешне, але ад гэтага не менш вясёлае, прыгожае і бесклапотнае. Кожныя выхадныя — выезд з Сашам і кампаніяй сяброў-спартсменаў за горад, з вогнішчам, з печанай бульбай, з палаткамі і спальнымі мяшкамі. Начныя купанні, зачараваныя погляды і кампліменты чужых мужчын як нельга лепш падагравалі Сашына пачуццё. Ліліна маладосць і прыгажосць лесцілі мужчынскі гонар. Дома цяпер заўсёды былі чысціня і парадак. Спартыўныя касцюмы не валяліся дзе папала, а роўненька віселі на плечыках. Брудны посуд не збіраўся ў ракавіне. Некуды знік пыл з паліраванай мэблі. Па вечарах, расправіўшыся з вячэрай, закончыўшы "кухонныя" справы, яны садзіліся ля тэлевізара ці глядзелі сямейны альбом з фотаздымкамі. Саша з мамай, Саша з бацькамі адпачывае ў Піцундзе, Саша з былой жонкай і дачкой Веранікай, Саша на вяселлі Веранікі, Вераніка з мужам і сынам... "Дарэчы, — нечакана пытаўся Саша, — а ты прыбрала са стала сыр? Ідзі правер, калі ласка. Шкада будзе, калі сапсуецца...".

Перад прыходам гасцей ён асабіста рабіў абход кватэры і правяраў сервіроўку стала. Потым выклікаў Лілю з кухні і падрабязна тлумачыў: вось гэты нож для сыра, гэты для рыбы, глядзі не пераблытай... Ліля згаджалася і бегла пераапранацца, каб паспець да прыходу гасцей. "Ну што ты там корпаешся?", — Саша заходзіў у пакой, крытычна аглядаў з ног да галавы юную спадарожніцу жыцця. Пасля чаго рэзюмаваў: "У кароткай спадніцы табе будзе нязручна падаваць на стол". "А я нічога падаваць не збіраюся. Мы паставім усё адразу і будзем весяліцца", — бесклапотна адказвала яна, разумеючы, што Аляксандру Барысавічу гэта непрыемна. Ні да, ні пасля — Ліля ніколі не задавала яму пытанняў пра тое, колькі жанчын і дзяўчат пабывала ў гэтай кватэры. Здагадвалася, што шмат. Упэўненых у сабе, ведаючых, што і ў які момант сказаць. Яны прыходзілі з патаемным жаданнем затрымацца ў гэтых пакоях, марылі прасаваць яго кашулі і карміць сняданкам — і нічога. А яна затрымалася.

Іх шлюб, як высветлілася пазней, выраcшыла не яго каханне, а яе цяжарнасць. Пасля нараджэння Алёны Ліля поўнасцю завязла ў хатніх клопатах. Аляксандр Барысавіч узяў дадатковыя гадзіны, знайшоў працу па сумяшчальніцтву і як бы "саматіквідаваўся" — выключыўся з іх сумеснага жыцця. Дадому вяртаўся толькі гадзін у адзінаццаць вечара. Спаць ішоў у іншы пакой, шчыльна зачыняючы за сабой дзверы — не мог выносіць дзіцячы плач. Па магазінах, пральнях, аптэках і паліклініках Ліля хадзіла сама, страціўшы ўсякую надзею на дапамогу мужа. У сем гадзін раніцы, трымаючы Алёну пад мышкай, незалежна ад надвор'я бегла на малочную кухню. Па дарозе дадому атаварвалася пельменямі і бульбай. У Сашы раптам выявілася схільнасць да беражлівасці, ён пачаў лічыць прыходы і расходы, у выніку чаго сума на харчаванне значна скарацілася... Перад паездкамі ў камандзіроўкі (у тым ліку і замежныя) ён заўсёды папярэджваў: я табе адтуль нічога не прывязу... Вяртаючыся, знаходзіў шэраг усялякіх недаробак, дапушчаных маладой жонкай па частцы вядзення дамашняй гаспадаркі: неаплачаныя тэлефонныя рахункі, дзіцячыя паўзункі на вяроўцы ў пярэдняй, адсутнасць свежай гарбаты ў чайніку — усё выклікала раздражненне мужа. І Ліля раптам пачала празраваць. І таксама заўважаць у любага такія-сякія недахопы. А тут яшчэ пазваніла Людміла, сяброўка: чаму, маўляў, не паехала з мужам у суботу на "уік-энд" за горад? Цудоўна бавілі час, Саша быў проста беспадобны... "Так-так, я ведаю, але ў мяне з'явіліся тэрміновыя справы", — апраўдвалася Ліля, успомніўшы, што сваю адсутнасць у памянёную суботу муж растлумачыў страшэннай пазапланавай нагрузкай.

Я не магу сказаць, ці доўгі шлях ад кахання да нянавісці. Калі прыгадаць народную мудрасць — усяго адзін крок. Ён можа быць большым ці меньшым, але... Ліля сама вызначыла свае адносіны да некалі каханага мужчыны: ціхая нянавісць. Аднойчы прыняўшы ілюзію за рэальнасць, яна ўжо не ў стане змяніць сваё жыццё, і сёння вымушана расплачвацца за памылку...

"Трагедыя нашага часу не ў тым, што мы не сытыя ці неапранутыя, а ва ўнутранай несвабодзе і залежнасці, якая захоўваецца пры любой дэмакратыі... Крок управа, крок улева — пастка". Чалавек баіцца згубіць тое, што ён мае, нават калі мае ён адны ілюзіі. І ў жыцці яго паступова ўваходзіць нянавісць. Ціхая-ціхая...

**Наталля СТРАЛКОВА.**

 Падпіска-93. Наш індэкс — 63129.

# ІНФЛЯЦЫЯ ДУШЫ

**По выніках сацыялагічных апытанняў, 36 са 100 жыхароў Беларусі ўвесь час баяцца крадзяжу і абрабавання. 38 са 100 штодзённа палохае перспектыва стаць інвалідам ці загінуць ад рук злачынцаў.**

Інфляцыя... Слова, якое яшчэ з дзесятак год таму ўжывалася выключна ў кантэксце крытыкі "капіталістычнага раю", зараз добра знаёмае і нам з вамі. Але страшнейшая нават за інфляцыю грашовую — інфляцыя чалавечых каштоўнасцяў. І рост злачыннасці — прыкмета гэтай інфляцыі. Канечне, за лічбамі часам губляецца жахлівы сэнс, але, уявіце, на месцы кожнай ахвяры можам апынуцца я ці вы... І няхай зараз 93,4 працэнта забойстваў паспяхова расследуюцца, але для сям'і, сяброў ахвяры — гэта слабае суцяшэнне.

У 1991 г. ў Беларусі зарэгістравана 81,3 тыс.злачынстваў. Гэта на 7,5 працэнта болей, чым у 1990 годзе. З іх 546 — наўмысных забойстваў ці пакушэнняў, 706 жанчын і дзяцей сталі ахвярамі гвалтаўнікоў. За першыя сем месяцаў гэтага года ў рэспубліцы адбылося ўжо 340 забойстваў і пакушэнняў. Больш за 40 працэнтаў з іх — бытавыя. Увогуле, толькі за студзень і люты 1992 г. здзейснена амаль 14 тыс.злачынстваў, а гэта на 25 працэнтаў болей, чым за той жа перыяд мінулага года.

Прыкладна кожнае сёмае злачынства ў рэспубліцы — цяжкае. За першыя два месяцы 1992 г. колькасць згвалтаванняў узрасла на 29 працэнтаў, разбойных нападзенняў — на 33 працэнты (рост гэтага віду злачыннасці ў 1991 г. параўнальна з 1990 г. склаў 17 працэнтаў). За сем месяцаў 1992 г. — 2547 абрабаванняў, 412 выпадкаў разбою.

Усё часцей злачынцы карыстаюцца зброяй, толькі ў гэтым годзе яны выкарыстоўвалі стралковую зброю больш за 100 разоў, халодную — каля 7 тысяч.

Варта звязаць з гэтым і павелічэнне колькасці фактаў крадзяжу зброі: калі ў 1990 г. было 24 такія выпадкі, то ў 1991 — ужо 35.

З'яўляюцца і распаўсюджваюцца нетыповыя раней для Беларусі з'явы, такія, як наркаманія. І калі некалькі год таму на газетных старонках вялася вялікая агітацыя супраць таксікаманіі, наркаманіі, то зараз яна саступіла месца, мабыць, аб'яўкам кшталту "куплю-прадам" ды сумніцельнай рэкламе. Між тым, калі ў 1986 годзе на ўліку ў рэспубліцы стаяла 314 наркаманаў, то зараз — ужо 567.

Яшчэ адна адносна новая з'ява — рэкет. Мабыць, любому жыхару вялікага горада прыходзілася назіраць спаленыя камерцыйныя кіёскі. "Гаспадар не хацеў плаціць даніну", — зазначыў неяк пра гэта знаёмы "камерсант". А ўсяго за гэты год зарэгістравана 109 фактаў рэкету (вымагання). А колькі яшчэ невядомыя "органам" ці праходзяць "па іншых артыкулах".

Ваўкі збіраюцца ў зграі. Рост групавой злачыннасці напачатку гэтага года склаў 20 працэнтаў. За восем апошніх месяцаў банды і групоўкі здзейснілі звыш 5 тысяч злачынстваў па лініі вышуку, з іх 76 — наўмысныя забойствы.

Што спараджае такі "рост з паскарэннем"?

Можна шмат спрачацца: ці то аснова паводзінаў дарослага чалавека — дзяцінства, ці дзяцінства — адлюстраванне дарослага жыцця. Пытанне гэтае, мабыць, такое ж невырашальнае, як славуты парадокс "курыцы і яйка". Тым не менш, кожны пагодзіцца, што рост падлеткавай злачыннасці — зусім не паказчык здароўя грамадства.

Толькі за студзень—ліпень 1992 г. з 370 забойстваў 22 здзейснена непаўналетнімі. Увогуле за 1990 г. зарэгістравана 7484, а за 1991 — 7629 злачынстваў непаўналетніх. Асноўная іх частка, каля 70 працэнтаў, гэта крадзяжы. За мінулы год падлеткамі прычынена 41 цяжкае цялеснае пашкоджанне, учынена 164 згвалтаванні. На 29,2 працэнта больш "дзявочых" (зробленых дзяўчатамі да 18 год) злачынстваў. Дзіўны той факт, што знізілася колькасць правапарушэнняў у асяроддзі навучэнцаў ПТВ, затое ўзрасла сярод школьнікаў — на 7,9 працэнта і студэнтаў ВНУ і тэхнікумаў — рост 31 працэнт. Значыць, адукацыя — яшчэ не гарантыя ад "крыміналу".

Каб паспрабаваць глыбей разабрацца ў гэтай з'яве, варта зазірнуць, як кажуць, у глыбіні чалавечай, у прыватнасці, дзіцячай, маладзёжнай свядомасці.

У снежні 1991 г. беларуская служба "Грамадская думка" правяла апытанне 2030 школьнікаў і навучэнцаў ПТВ. Аналагічнае апытанне 2500 падлеткаў праводзілася ў 1987 годзе. Каштоўнасныя арыентацыі моладзі ў перыяд перабудовы размеркаваліся прыкладна такім чынам:

*мець верных сяброў (1987 г. — 91,1 працэнта, 1991 г. — 81,5 працэнта);*
*каханне (адпаведна 68,7 і 55,6 працэнта);*
*цікавая прафесія, праца (71 і 41,1 працэнта);*
*вучоба (38,9 і 9,6 працэнта);*
*павага да старэйшых (39 і 5,7 працэнта);*
*сіла (20,7 і 30,9 працэнта);*
*грошы (27 і 43,6 працэнта);*
*інтэлект (35,8 і 17,5 працэнта);*
*творчасць (20,2 і 4,8 працэнта);*
*імкненне стварыць сям'ю (41,2 і 14,3 працэнта);*
*мода (30,2 і 13,6 працэнта);*
*музыка (16 і 16 працэнтаў);*
*"фірменныя рэчы" (14,2 і 17,5 працэнта);*
*кар'ера (11 і 16,5 працэнта);*
*секс (5,4 і 4 працэнты).*

Вось так! Можа, тут і хаваецца адказ на шматлікія "чаму"? Чаму апошнія гады, насуперак звычайнаму, недаборы ў ВНУ? Чаму расце колькасць абортаў, разводаў? Чаму, урэшце, павялічваецца колькасць тых жа самых "дзіцячых", здзейсненых з недзіцячай жорсткасцю, злачынстваў?

Канешне, пануючы стэрэатып "быццё вызначае свядомасць", прымушае вінаваціць ва ўсім складаную эканамічную сітуацыю (каб не сказаць проста — беднасць), недасканаласць законаў, беспрацоўе... Толькі паўстае яшчэ адна супярэчнасць: чаму "ад беднасці" адзін ідзе працаваць на любую цяжкую, можа, непрыемную работу, а другі — красці? Чаму нехта перадае апошні грош з невялічкай пенсіі ці зарплаты для дапамогі тым, хто ў бядзе, а нехта ні за грош гатовы забіць?

Варта задумацца, мабыць, над старой ісцінай — усё пачынаецца з сям'і. Даражэнькія, змучаныя эканамічнымі цяжкасцямі і палітычнай нестабільнасцю бацькі! Можа, самае важнае на сённяшні дзень не тое, што ў страўніку вашых дзяцей, а тое, што ў галаве. І ні школа, ні грамадства не зробяць за вас гэтую вялікую працу — не толькі "зрабіць" дзіцёнка, але і стварыць яго як асобу.

В.АКУЛІЧ.



## Інфа-крым

### "ПАСЛЯДОЎНІКІ" ДЗЕТАЧКІНА

Зараз, калі звычайны веласіпед каштуе каля 3 тысяч рублёў, матацыкл "Мінск" — 19,2 тысячы, ЯВА-350 — 25 тысяч, кола ад аўтамашыны — 3,7 тысячы, а акумулятар — цэлых пяць (гэта дзяржаўныя цэны, рыначныя значна вышэй), — колькасць узломаў гаражоў і іншых памяшканняў, у якіх жыхары Крычава і навакольных вёсак захоўваюць свой аўтамотатранспарт, значна ўзрасла.

Толькі за першае паўгоддзе адбылося 32 такія крадзяжы, 14 з якіх пакуль застаюцца не раскрытымі. Паводле слоў начальніка аддзялення крымінальнага вышуку Сяргея Скачкова і статыста-аналітыка ГРАУС Івана Прымакова: у памяшканні злодзеі трапляюць па-рознаму: зрываюць або перапілоўваюць вісячыя замкі, узломваюць дах. Апошняе зрабіць не так ужо і складана: дах уяўляе сабой рэдка пакладзеныя тонкія дошкі, рубероід і лісты шыферу. Для злодзея гэта не перашкода, калі не ўмацаваць дах належным чынам. Некаторыя ж гаспадары нават павесіць замкі на вароты забываюць.

Апошнім часам украдзены таксама не адзін дзесятак мапедаў і веласіпедаў. У большасці выпадкаў крадзяжом транспартных сродкаў прамышляюць падлеткі і юнакі. Яны разбіраюць украдзены матацыкл, мапед ці веласіпед і запчасткі расходзяцца па розных адрасах, вось чаму міліцыі цяжка "знайсці канцы".

Акрамя ўласнай халатнасці гаспадароў, крадзяжам спрыяе адсутнасць каля гаражоў электраасвятлення або яго частае адключэнне. Няма там таксама ніякай агароджы і вартаўнікоў. Вось і сыплюцца ў ГРАУС заявы ад аўтааматараў...

### "УСЁ ВАКОЛ КАЛГАСНАЕ, УСЁ ВАКОЛ МАЁ?.."

Апошнім часам позірк раскрадальнікаў прыцягвае і прадукцыя палёў і ферм. Злачынцаў не стрымліваюць ні замкі, ні сталёвыя краты, ні прысутнасць варты.

Так, раней судзімы Шматкоў пранік 6 чэрвеня ў халадзільнік калгаса імя XXII з'езда КПСС і ўкраў адтуль мясапрадуктаў больш чым на тысячу рублёў. А раней судзімы Зубараў 24 ліпеня выцягнуў праз вентыляцыйную адтуліну са свінафермы калгаса "Запаветы Ільіча" парсючка коштам тры тысячы рублёў.

Малаказборшчык калгаса "Перамога" Кабетаў 27 ліпеня "пазычыў" у гаспадарцы тры рулоны прэсаванага сена на суму 2325 рублёў.

Не змаглі прайсці міма залацістай пшанічкі і работнікі калгаса "Памяць Леніна" Чакуноў з Краўцовым. Яны прыхапілі з калгаснага збожжатока зерня на суму 1037 рублёў.

Гэтыя выпадкі не адзіныя ў Крычаўскім раёне. Сёння само жыццё часам падштурхоўвае людзей на крадзеж. Асабліва калі яны замест таго, каб вырасціць самому добрую бульбу, агародніну, выкарміць нейкую жывёліну, накіроўваюцца на калгаснае падвор'е, як на ўласнае.

Падрыхтаваў
А.БАЛДОЎСКІ.
Крычаўскі раён.

# ЗА МЯЖОЙ... У КІЕВЕ



Пакуль чакаеш, калі футбольная Еўропа завітае да нас у Мінск, застаецца з зайздрасцю паглядаць у бок суседзяў, якіх фартуна бокам не абышла. І марыць, што калі-небудзь убачым на "Дынама" зборную Даніі, як, напрыклад, балельшчыкі Рыгі і Вільна. Няхай не ў афіцыйнай сустрэчы, хаця б у таварыскай... Спадзявацца, што хутка зноў над мінскім стадыёнам узаўецца белае палотнішча сцяга УЕФА, як гэта было ўжо некалькі год таму!..

Але ўсё ж дэкларатыўнасць нашых з суседзямі межаў мае свае станоўчыя бакі. Не хочаш зайздросціць, ціха седзячы дома,— садзіся на цягнік і едзь у замежную сталіцу!

Не ведаю, што больш робіць Украіну падобнай на, як мы па-руску кажам, "заграніцу"— іншыя грошы, іншыя цэны, іншая мова ці іншая арганізацыя міжнароднага спартыўнага спаборніцтва, у нашым выпадку футбольнага матча. Украінская федэрацыя футбола нездарма рвалася ўжо сёлета заявіць у еўракубкі свае клубныя каманды. Міжнародныя патрабаванні, якімі нас не стамляюцца палохаць — металічная сетка паміж трыбунамі і палямі, спецыяльная ложа з тэлефанізаванымі месцамі для прэсы, нават палепшаныя трыбуны не з лаўкамі, а з крэсламі — усё гэта даўно ёсць на кіеўскім рэспубліканскім стотысячніку. А ў тым жа Кіеве ёсць таксама ўтульны стадыён "Дынама". На сімферопальскім стадыёне, дзе зараз гуляе чэмпіён Украіны — мясцовая "Таўрыя", раней вельмі часта гуляла былая зборная былога СССР. Дык што, па-ранейшаму будзем толькі зайздросціць?

16 верасня ў Кіеве адбыўся першы матч 1/32 кубка УЕФА, кіеўскае "Дынама" прымало венскі "Рапід". Я пабываў на матчы, аб чым ужо пісаў тыдзень таму. І ў першы раз "хварэў" не за былую савецкую каманду, а за нашага земляка Аляксандра Мятліцкага і за яго каманду. У "Рапідзе", дарэчы, гуляе таксама Сяргей Мандрэка, вядомы нам па выступленнях за душанбінскі "Памір". Але спачатку пра гаспадароў.

Аматарам футбола
газеты „Чырвоная Змена"
ад ігрока Венскага „Рапіда"
Александра Мятліцкага.

"Дынама" ўразіла гучнасцю футбольных імён у сваім саставе. "Старыкі" Дзем'яненка і Якавенка, зборнікі Лужны і Цвейба, не менш вядомы Шматаваленка, былы маскоўскі дынамавец Лявоненка, два літоўскія легіянеры Марцінкенас і Панкрацьеў, ды яшчэ тры здольныя малады хлопцы, якія яшчэ вясной вызначыліся сваёй выдатнай гульнёй за іншыя ўкраінскія каманды — Шкапенка (запарожскі "Металург"), Мінтэнка (форвард з "Букавіны") і Раброў ("Шахцёр"). Апошні, на жаль, у той вечар не гуляў, хаця быў прызнаным лепшым маладым футбалістам першага нацыянальнага чэмпіянату Украіны. Самым актыўным футбалістам у гэтым матчы сярод кіяўлян быў, безумоўна, Лявоненка, самым карысным, таксама, безумоўна, Якавенка.

"Рапід" гуляў, на жаль, не самым моцным саставам. Перад галоўным трэнерам Аўгустам Старэкам паўстала пытанне: каго выпусціць на поле трэцім з іншаземцаў, у дадатак да цэнтральных паўабаронцаў Мятліцкага і Мандрэкі,— чэха Грыгу ці нарвежца Фьёртафта? Старэк выбраў апошняга, і хто ведае, правільна зрабіў ці не? Сам Старэк быў незадаволены гульнёй ігрока нацыянальнай нарвежскай зборнай на пасляматчавай прэс-канферэнцыі. Йожэф Саба, кіраўнік кіеўскай каманды, на ёй жа адзначыў "адзінаццатку"— Фьёртафта, як лепшага за гэты матч у "Рапідзе". Як кажуць, на густ і колер...

Тэлегледачы бачылі па расійскім канале другі тайм сустрэчы, бачылі адзіны гол на дваццаць чацвёртай секундзе (!) гэтага тайма, які забіў Якавенка пасля памылак абаронцаў аўстрыйскай каманды ў непасрэднай блізкасці ад варот. Але першы тайм быў зусім не падобны. У ім, на мой погляд, каманды гулялі ў больш разнастайны, абаюдавостры і хуткі футбол, хаця і пад моцным дажджом.

Нават у першым тайме па галявых момантах "Рапід" сапернікаў пераўзыходзіў. Ужо на шостай хвіліне нападаючыя Фьёртафт і Родакс завяршылі ўдарам па варотах першую разыграную камбінацыю, а на дзевятай іспанскаму арбітру Антоніо-Марціну Наварэтэ можна было смела паказаць на адзінаццаціметровую адзнаку ў штрафной "Дынама" — непадалёку абаронцы збілі Фьёртафта. У другім тайме суддзя адпаведна не адрэагаваў на знос Лявоненкі ля штрафной пляцоўкі гасцей, такім чынам зраўняўшы лік па неназначаных пенальці. Двойчы са штрафнога, прыкладна з аднаго пункту поля, на якім чамусьці не шанцавала Мандрэку, з адлегласці каля 25 метраў біў Мятліцкі — адзін раз у "сценку", другі раз — вышэй варот. У сярэдзіне тайма, калі Марцінкенчас няўдала адбіў удар Родакса, Фьёртафт, усё той жа Фьёртафт не трапіў у вароты з лініі варатарскай.

Другі тайм вы бачылі, калі жанчыны не прымусілі глядзець на Марыяну. Забіўшы хуткі мяч, кіяўляне дамініравалі на полі да сярэдзіны тайма. Потым двойчы Марцінкенас заставаўся адзін супраць спачатку Мандрэкі, затым Родакса. Але, як вы ведаеце, вынік не змяніўся.

Пройгрыш з розніцай у адзін мяч — не такі ўжо страшэнны. І хаця Старэк на пасляматчавай прэс-канферэнцыі зноў супаставіў шанцы кіяўлян і венцаў 60 працэнтаў да 40 працэнтаў, яго візаві Йожэф Саба адзначыў, што чакае адказнай гульні з хваляваннем.

— Але тактыка — вялікая рэч,— заявіў легендарны кіеўскі футбаліст,— і за яе рахунак можна перамагчы любую моцную каманду.

Дарэчы, на пытанне вашага карэспандэнта пра адносіны кіеўскага "Дынама" і Валерыя Вялічкі, Йожэф Йожэфавіч адзначыў:

— У кіраўніцтва нашай каманды і самога Валерыя было абаюднае жаданне на пераход яго з мінскага "Дынама" ў кіеўскае. Гэты моцны форвард склаў бы цудоўны дуэт нашаму Лявоненку.

Чырвоная
Змена
С Наилучшими пожеланиями
От всей души Игрок
команды Rapid
Сергей Мандреко

Вы сёння бачылі: Мінтэнка на гэтую ролю не цягне... Але ў Вялічкі яшчэ доўгі тэрмін кантракту і пераход пакуль немагчымы. А жаданне наша не прапала!

Аўгуст Старэк у заканчэнне сваёй прамовы адзначыў, што перад гэтай гульнёй "Рапід" не прайграваў восем матчаў запар, і ён спадзяецца, што чарговыя восем таксама будуць бяспройгрышнымі. Зразумела, сюды ўключаецца аўтаматычна гульня 30 верасня ў Вене "Рапід" — "Дынама". Дарэчы, гэта ж трэнер сказаў і сваім падапечным за вячэрай.

На жаль, задума трэнера ўжо не здзейснілася. 19 верасня "Рапід" гуляў супраць каманды "Форвэртс" са Штайра ў апошнім матчы першага круга чэмпіянату Аўстрыі і прайграў 0:1. Саша ў гэтым матчы не гуляў з-за чатырох жоўтых картак, атрыманых ад суддзяў у першынстве. "Арбітры, напэўна, палічылі мяне адным з самых грубых ігракоў у Аўстрыі, цяпер прыйдзецца доўга даказваць зваротнае,— з невясёлай усмешкай адзначыў Аляксандр.— Затое, дарэчы, гэта будзе перапынак, каб залячыць шматлікія траўмы, якія надаюць шмат клопату. Хутчэй за ўсё я буду гуляць у двух наступных матчах супраць таго ж "Фарвэртсу" і "Дынама".

Старонку падрыхтаваў
спартыўны аглядальнік
Яўген ПУЧКОЎ.

Фота Мікалая БАЧКА
(г.Кіеў).

Падпіска-93. Наш індэкс 63129.

# КУФЭРАК З КАШМАРАМІ

## МАГІЯ ЖУДАСЦІ

Вобраз трансільванскага графа-вампіра Дракулы з яго злавеснай усмешкай і акрываўленымі клыкамі прымушае трапятаць і навявае жах не на адно пакаленне. Былі часы, калі ля кінатэатраў, дзе дэманстраваўся чарговы баявік пра паходжанні Дракулы, дзяжурылі "хуткія". Прахожыя ўздрыгвалі, пачуўшы, як крычаць перапалоханыя насмерць гледачы. Адзін з выканаўцаў ролі крыважэрнага вяльможы — Бела Лугошы — настолькі "пераўвасабляўся", што яго прыносілі на спектакль у... труне, якую неслі акцёры, загрыміраваныя вампірамі.

Кажуць, "геній Карпатаў", як называлі ў Румыніі Мікалая Чаушэску, тайна сімпатызаваў графу Дракуле. А можа, нават і зайздросціў. Аднак усялякае прыгадванне пра яго забараняў, каб румынам не трапіла на розум параўноўваць кіраўніка сацыялістычнай дзяржавы з вядомым крывасмокам. Пасля пакарання дыктатара румыны неслі яго выяву з вялізнымі клыкамі і крычалі: "Чаушэску-Дракулеску!"

"Дракуліяда" пачалася з вядомага рамана Брэма Стокера "Дракула", выдадзенага 100 гадоў таму, які неаднойчы перамагаў туркаў. Граф-крывасмок свабодна чытае думкі субяседніка, падпарадкоўвае сабе яго волю. Ён можа пераўвасабляцца ў ваўка, пацука. Ён злосны і валодае вялізнай фізічнай сілай...

Пасля доўгіх перыпетый Джонатан Харкер вяртаецца ў Лондан і разам са сваёй нявестай Мінай і знаёмым прафесарам з Галандыі ван Хелсінгам пачынае паляванне на Дракулу, каб выратаваць свет ад ваўкалака. Ім становіцца вядома, што граф часам прыязджае ў Лондан, і яны пранікаюць у ягоны дом. Але Дракула заварожвае Міну, п'е яе кроў і прымушае паспытаць яго ўласнай крыві. Пасля "крывавага хрышчэння" Міна цалкам належыць графу, і яе твар набывае рысы вампіра. У стане гіпнозу дзяўчына паведамляе свайму жаніху і прафесару ван Хелсінгу, што Дракула вяртаецца ў Трансільванію на судне "Царыца Екацярына". Сябры чакаюць яго спачатку ў Варне, а потым у Галацы, але вампіру ўдаецца падманупь праследвальнікаў. Тыя вырашаюць зрабіць засаду каля замка. На захадзе Джонатан і прафесар ван Хелсінг бачаць, як да замка хуткапрафесар ван Хелсінг маладога доктара Сьюарда, які не верыў у існаванне вампіраў. — Ёсць на свеце рэчы, якія хоць і не падуладныя тваёму розуму, але, нягледзячы на гэта, існуюць. Нельга дазваляць дробным ісцінам хаваць вялікую, а прадузятым ідэям перашкаджаць нам разумець абсалютна новыя". Ці не прымяняльныя гэтыя словы да бясконцых дыскусій вакол фенамена Джуны і Вангі, тэлекінеза і палтэргейста, індыйскіх ёгаў і філіпінскіх урачоў?

Публікацыя рамана Брэма Стокера забаранялася ў Румыніі пад маркай, што ён нібыта абражаў нацыянальныя пачуцці румын. Памятаю, як у часы Чаушэску часопіс "Магазин историк" назваў твор "грубай містыфікацыяй ірландскага пісьменніка, ператвараўшага адважнага ваяводу ў адыёзнага вампіра". Тады ж румыны шэптам расказвалі адзін аднаму, што ў іхняй краіне ёсць дзіцячыя сады, дзе дзяцей спецыяльна адкармліваюць, каб потым іх кроў пераліць таварышу прэзідэнту Чаушэску. Быль? Плётка? Анекдот? Судзіць не бяруся.

А наогул Дракула існаваў на самай

Брэм Стокер — ірландзец, ён з беднай сям'і, эсэіст і тэатральны крытык, выдавец буйнейшай газеты — апублікаваў свой раман у ЗША ў 1897 годзе, калі яму споўнілася 50 гадоў. Стокер быў членам нейкага "сакрэтнага і магічнага таварыства", куды ўваходзілі пісьменнікі, спецыялізацыяй якіх была розная роду д'ябальшчына.

...Лонданскі адвакат Джонатан Харкер — так клічуць галоўнага героя рамана — адпраўляецца ў дзелавую паездку ў "адну з самых дзікіх і малавядомых частак Еўропы". Там і жыве кліент адвакацкай канторы — граф Дракула. Край гэты ляжыць на мяжы паміж Трансільваніяй, Малдовай і Букавінай у сэрцы Карпат, дзе, як запісаў у сваім дзённіку Джонатан, распаўсюджаны ўсе вядомыя ў свеце забабоны. (Дарэчы, прыкладу ірландскага пісьменніка, які накіраваў свайго героя ў "самае д'ябальскае месца на зямлі", паследавалі французы П'ер Сувестэр і Марсель Ален: іх Фантамас аднойчы таксама наведваўся ў Трансільванію).

На перавале Быргэу адваката з Лондана сустракае сам граф Дракула — высокі, худы, бледны стары з абвіслымі вусамі, чырвонымі вачамі і вострымі зубамі. Ён са старажытнага роду. Хтосьці з прадстаўнікоў гэтага роду меў зносіны з нячыстай сілай. Дракула быў самым умелым і адважным ваяводам Трансільваніі, ка скачуць цыганы. У калясцы — труна, у якой звычайна падарожнічае Дракула. Сябры нападаюць на цыган, разбіваюць труну і забіваюць вампіра... Так заканчваецца раман Брэма Стокера.

Аднак насуперак ірландскаму пісьменніку, Дракуле было наканавана доўгае жыццё. Граф-крывасмок і сёння працягвае выклікаць цікаўнасць у філосафаў, пісьменнікаў і кінематаграфістаў усяго свету, не кажучы ўжо пра шырокую публіку. Паводле матываў рамана "Дракула", былі створаны шматлікія тэатральныя пастаноўкі. Адна з іх, да прыкладу, у Лондане вытрымала 18 сезонаў. Знята вялікая колькасць кінафільмаў. Самы вядомы — "Бал вампіраў" амерыканскага рэжысёра Рамана Паланскага. Раман Стокера быў настольнай кнігай вядомага акцёра Крыстофера Лі, выканаўцы ролі Дракулы. Другі выканаўца гэтай ролі — Бела Лугошы — нават на смяротным одры ўсклікнуў: "Я — Дракула!".

Поспех рамана, без сумненняў, хаваецца не толькі ў жаданні ягонага аўтара паказытаць чытачу нервы. Не выпадкова, што Дракуле, ды і "вампірызму" ў цэлым, былі прысвечаны шматлікія навуковыя даследаванні. Ключ да папулярнасці Дракулы, мяркую, у спрадвечнай цязе чалавека да невядомага, схаванага ад погляду, таямнічага. "Ты не дазваляеш уласным вачам бачыць і ўласным вушам чуць, — папракае справе. У 1456-1462 гадах ваяводай у Валахіі (а не ў Трансільваніі, заўважце) быў князь Улад па мянушцы Цэпеш, што значыць "кол", бо ён меў звычай саджаць на кол сваіх ворагаў. Была ў яго і іншая мянушка — Дракула ("драк" — па-румынску "чорт"). Расказваюць, што Уладу Цэпешу вельмі падабалася піраваць, назіраючы за ахвярай, якая курчылася на коле. Аднойчы турэцкія пасламі адмовіліся ў яго прысутнасці зняць цюрбаны. Тады раз'юшаны ваявода загадаў прыбіць цюрбаны да пасольскіх галоў... цвікамі. Усю Еўропу навадніла пісанні пра злачынствы валахскага ваяводы. Адно з іх — "Сказанне пра Дракулу-ваяводу" — было прывезена ў Расію Фёдарам Курыцыным, пасол рускага цара пры двары венгерскага караля.

Зрэшты, на ліку ва Улада Цэпеша было нямала ваенных подзвігаў. Яму, да прыкладу, удалося разбіць войска турэцкага султана Мехмета II і адкінуць яго за Дунай. Аднойчы валахскі ваявода трапіў у турму. Венгерскі кароль Мацьяш Корвін прысвоіў сабе грошы папы рымскага, якія ён выдзеліў на паход супраць туркаў, а ў крадзяжы абвінаваціў ваяводу. За кратамі той правёў больш за 10 гадоў. Жыццё сваё Улад Цэпеш закончыў так, як і герой рамана Стокера, — ворагі падпільнавалі ваяводу ў засадзе і забілі.

**"РЭХА ПЛАНЕТЫ".**

## КІНААФІША

### "ДУРНАЯ"

Гэтая новая каляровая мастацкая кінастужка пастаўлена паводле матываў аднайменнай п'есы Марселя Ашара.

Ці заслугоўвае гераіня гэтага іранічнага дэтэктыва ацэнкі, якая дадзена ў ягонай назве, — вы даведаецеся, паглядзеўшы фільм. Але спачуванне да гэтай маладой жанчыны прыйдзе адразу ж, нягледзячы на тое, што яе, Мары Лантане, падазраюць у забойстве. Яе, пакаёўку ў доме банкіра Барэвера, знайшлі ў стане непрытомнасці з рэвальверам у руцэ каля трупа яе палюбоўніка шафёра Мігеля...

У фільме здымаліся Мікалай Карачанцаў і Веніямін Смехаў. Адзін уразіць нас непадкупнай сумленнасцю, другі — вераломствам. Ганна Самохіна яшчэ раз здзівіць раскошай адзення, Ларыса Удавічэнка — парыжскай вытанчанасцю. Эстрадны кумір Міхаіл Мурамаў выступіць у ролі іспанскага плейбоя.

### "СЕКСКАЗКА"



У аснову фільма пакладзены расказ Уладзіміра Набокава "Казка".

Стужка распавядае пра закамплексаванага беднага юнака, якога спакушае Д'ябал у жаночым абліччы.

Праўда, усё гэта адбываецца ў ноч пад Каляды...

У карціне прымаюць удзел папулярныя кінаакцёры Людміла Гурчанка і Сяргей Жыгуноў.

### "ДЗЕВЯЦЬ З ПАЛОВАЙ ТЫДНЯЎ"

Пастаноўку гэтага эратычнага амерыканскага фільма здзейсніў рэжысёр Эдрыян Лайн.

Фільм распавядае пра няўдалае каханне паміж мужчынам і жанчынай. Іх раман падобны на дзіцячую гульню на мяжы дазволенага...

Поспеху фільма ў нямалай ступені садзейнічае цудоўны акцёрскі дуэт чароўнай Кім Бэйсінджэр, зоркі сусветнага экрана, і абаяльнага героя-палюбоўніка Мікі Рурка.


Дзяжурны рэдактар А. АГІБАЛАВА.

Мастацкае афармленне нумара В. ДУБОВІКА.

ЧЫРВОНАЯ Змена

Заснавальнік: ЦК СМБ
Выдавец: Газетна-выдавецкая фірма "БЕЛАЯ РУСЬ"

Газета ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.
АДРАС рэдакцыі: 220041, г.Мінск, праспект Скарыны, 77.
ТЭЛЕФОНЫ: 32-13-54, 32-50-01.

Газета набрана і звярстана ў наборна-выдавецкім бюро "ЧЗ".
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку", г. Мінск.
Індэкс на 1992 г. — 63906, на 1993 — 63129. Тыраж 17 000.

Галоўны рэдактар
Уладзімір БЕЛЬСКІ.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Алена АГІБАЛАВА, Сяргей БАЛЦЭВІЧ (адказны сакратар), Валерый ВАРАНЕЦКІ, Валерый ІВАНОЎ, Алег КАМІНСКІ, Віктар ЛЮКОВІЧ, Мікалай ЛАРКОВІЧ, Алесь МАСАРЭНКА, Станіслаў НІЧЫПАРОВІЧ, Алесь ПАЛЫНСКІ, Наталля ПЛЫТКЕВІЧ, Павел СІМАНАЎ (нам. гал. рэдактара), Алег СЛУКА, Наталля СТРАЛКОВА, Кузьма ШАПЛЫКА.

*Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытат, эканамічных звестак, асабістых імён, геаграфічных назваў і іншай інфармацыі, а таксама за тое, каб у матэрыялах не ўтрымлівалася звестак, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі. Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы ў парадку абмеркавання, не падзяляючы пункту гледжання аўтара.*

*Рэдакцыя рукапісы не рэцэнзуе і не вяртае.*

Рэдакцыя газеты "Чырвоная змена" прымае заказы на змяшчэнне аб'яў, рэкламы. Даведкі па тэлефонах 32-12-82, 32-50-01.

Зак. № 39

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12